## АСОБЫ:

Бас-Грэнка — тутэйшы настаўнік

| | |
|---|---|
| Падбрэхіч-Гарнак<br>Хрушч-Булыга<br>Насенка<br>Пясецкі | Жывуць разам у школе |
| Шумяка<br>Нічыпар<br>Лясун<br>Прут<br>Лукашык<br>Агата Гарэльская<br>Надзея Баханок | Настаўнікі з другіх школ, моладзь па 20—25 г. |

Настаўнікі

Довід — крамнік

Прыстаў, 35 г.

Ураднік, з сіваю барадою, тонкі, высокі

Паліцэйскія стражнікі

## АКТ ПЕРШЫ

Кватэра настаўніка ў вясковай школе. Невялікі пакой. Каля аднае сцяны стаіць шафа з кнігамі. На шафе відаць глобус. Пасярэдзіне, бліжэй да аднае сцяны, насупраць акна, стаіць стол і канапа. На сцяне вісіць геаграфічная карта, каля яе скрыпка. Збоку ад скрыпкі на жалезным кручку нанізаны паперачкі рознага фармату. Некалькі простых крэслаў. На канапе пад прасцінёю спіць Булыга. Відны толькі валасы і ногі ў белых панчохах. Каля канапы яго камашы. Спіць нераздзеты.

Шумяка (*уваходзіць з кіем, спыняецца на парозе, аглядае пакой*). А дзе-ж яны? Няўжо яшчэ не паўставалі?.. Э, там хтось ляжыць! (*Ставіць у куток кій, ціхенька падыходзіць да канапы.*) Каторы-ж гэта з іх? А! Ды гэта-ж Хрушч-Булыга!.. Пастой-жа, брат: я цябе зараз падыму! (*Казыча пальцамі ступні. Булыга парывіста прымае нагу. Шумяка прысядае, хаваецца за канапу.*) Спіць!.. Мусіць, нядаўна з вячорак прывалокся. Хрушч! (*Становіцца ў позу, громка дэкламуе.*)

Я пришел к тебе с приветом
Рассказать, что солнце встало,
Что оно горячим светом
По листам затрепетало.

Ты яму хоць з гарматы страляй, не пачуе. (*Знімае са сцяны скрыпку, становіцца над вухам.*) Стой-жа, брат, за-

спяваю табе з боскага што-небудзь. *(Водзіць смыкам па скрыпцы і спявае.)*

Душе моя! душе моя!
Восстани, что спиши?
Конец приближается!

Булыга *(заварушыўся, не падымаючы галавы)*. Каго там чэрці дрэнчаць? Пайшоў ты к чорту — спаць хачу!

Шумяка. Не, брат, дудкі: уночы трэба было спаць. Я, пане мой, ужо восем вёрст пехатою адтрапаў, а ён не выспаўся! Уставай ты, абібок! *(Сцягвае прасціню.)*

Булыга. Ты, Падбрэхіч! Вымятайся к чортавай галаве!

Шумяка *(кладзе на стол скрыпку)*. Прадзяры свае лупы ды паглядзі, хто стаіць перад табою!

Булыга. А, вось чорт! Адкуль ты ўзяўся? Здароў, брат. *(Здароўкаюцца.)* А я гляджу, хто гэта такі. Думаў, што Гарнак.

Шумяка. А чаго ты ляжыш нераздзеты? Ці не з вячорак ты, брат, часам?.. Эх, Хрушч ты, Хрушч! Згубяць цябе бабы.

Булыга. Якія там у чорта вячоркі і якія там у ліха бабы! Мы, брат, занач абход вялікі зрабілі: абышлі сёл з восем... Ёсць у цябе курыць? *(Шумяка дастае папяросы.)* Мы, брат, абкурыліся тут. У доўг залезлі к Довіду. І цяпер, як толькі згледзім яго рыжую бараду і доўгую канторскую кнігу пад пахаю, дык уцякаем ад яго, як ад Тамерлана, — хто куды: плаціць няма, брат, чым!

Шумяка *(рагоча)*. Ах вы, галадранцы! Агалела ваша сябрына... А які-ж вы абход рабілі?

Булыга. Гэ, брат: нічога ты не ведаеш!

Шумяка. Лісткі раскідалі?

Булыга. У нас тут цэлая машынэрыя заведзена... Жывеш ты там, як воўк адзін.

Шумяка. Так, голубе, я трохі адзічэў. З прыродаю жыву адным жыццём... А дзе-ж Алесь, Сымон?.. Дзе ваша комуна?

Булыга. Пазвалакаюцца зараз... Па гумнах туляюцца... А вось там тухкае нехта. Напэўна Грэнка ці Гарнак.

За дзвярыма тупат. Уваходзіць Сымон Гарнак.

Г а р н а к (*да Шумякі*). Шуміла! Вось маладзец, што прышоў. А я, брат, без цябе зусім замаркоціўся!

Ш у м я к а. Ну?! Браток ты мой! Сваім прызнаннем ты мне проста душу ўскалыхнуў! Як маешся, мудрэц?.. Ці не хочаш і ты часам закурыць?

Г а р н а к (*бярэ папяросу*). Чорт яго, брат, ведае, як я маюся. У гурце нічога, а застануся адзін, дык моташна робіцца... Тфу, паскудства! Ты ведаеш, брат, які я сніў гадкі сон?

Б у л ы г а. Можа, зноў сніў, што без штаноў на курсы ў Мінск паехаў?

Г а р н а к. Не, брат, горш яшчэ... Тфу!

Шумяка і Булыга рагочуць.

Ш у м я к а. Калі яшчэ горш, то напэўна дрэнны сон.

Г а р н а к. Паскудны сон! І трэба-ж гэтакай гадасці звярзціся! Вы ведаеце, што я сніў? Здаецца, вуха адкусіў у нашага ўрадніка і еў!

Ш у м я к а і Б у л ы г а. Ха-ха-ха!

Б у л ы г а. А бадай ты скіс разам са сваім сном!

Г а р н а к. Далі-бог! Жую, жую, а яно цвёрдае, як падэшва, коўзаецца і на зубах рыпіць! Тфу!

Ш у м я к а. А чаму ты босы, браце мой Сымоне?

Г а р н а к. Па-першае, і сам Хрыстос хадзіў босы, па-другое — хадакі свае стаптаў і па-трэцяе — босаму спрытней: больш маю шансаў ад Довіда ўцячы.

Ш у м я к а. І даўся-ж гэты Довід вам у знакі. Ён — проста нейкі ўладар вашых дум.

Г а р н а к. Ён, брат, быў раз аблажыў нашу комуну, але мы ў вокны кінуліся ды ў каноплях пахаваліся. Адзін толькі Бас-Грэнка ў палон папаўся, і Довід з гадзіну чытаў яму нашы распісачкі.

Б у л ы г а (*падымаецца з канапы, бярэ камашы, разглядае іх*). Эх, выскалілі зубы, камашыкі мае! Скора і мне прыдзецца браць прыклад з Хрыста... Галота ты, галота настаўніцкая! Ні мыш, ні пацук не могуць каля нас пажывіцца... І праўда, брат: няма культуры там, дзе трудна жыць настаўніку... Слухай, Сымон: а што ў нас будзе сёння на абед?

Ш у м я к а. Квашаніна з урадніцкіх вушэй!

Г а р н а к. Я ўжо ўночы наеўся, а вы сабе як хочаце.

Булыга. То кепскі-ж з цябе бунтаўшчык, калі ты гэтак разважаеш.

Чуваць тупат. Уваходзяць Грэнка і Пясецкі.

Булыга. Смірна! Ідзе наш правадыр, вялікі дэмакрат!

Грэнка (*басам*). Го-о-о! (*Здароўкаецца з сябрамі. Да Шумякі.*) Мы, брат, тут намазваем калёсы: сёння штук з сорак адозвачак да сялян параскідалі. Няхай чытаюць.

Пясецкі. Няхай чытаюць і розуму набіраюцца.

Шумяка. А дзе-ж вы іх узялі?

Пясецкі. Самі фабрыкуем.

Грэнка. Самі складаем і самі друкуем.

Булыга. І самі разносім.

Гарнак. Мы ўсё: пачатак і канец... Ты ведаеш, брат Шумяка, якая гэта была слаўная хвіліна! Ноч. Цішыня. А мы прышлі на бераг Нёмана, раздзеліся напалавіну і ў брод. Вада напірае на твае ногі і штосьці шуміць, як-бы сярдуе за тое, што парушылі яе вольную плынь. І так гэта здорава адчуваеш сябе! Шыбуем у сёлы і раскідаем свае лісткі так, каб ні адзін з іх не прапаў... Прыемна, ведаеш ты, сама гэтая думка, што робіш справу добрую, і ў той-жа час яна ёсць справа беззаконная з пазіцыі начальства.

Шумяка. Ён, браткі, расказвае, як паэт. Проста зайздросна мне.

Пясецкі. Го, наш Сымон! Яго, брат, не возьмеш за руб дваццаць.

Грэнка. А ведаеш што: пайшлі гутаркі паміж людзей.

Пясецкі. Забастоўшчыкі, кажуць, з'явіліся, і скора пачнуцца пажары. Гутаркі пайшлі... Будзьце асцярожны. (*Да Гарнака.*) Да таго-ж ты яшчэ і кудлаты.

Гарнак. Ну, і чорт іх бяры з кудламі: не трэба будзе цырульніку плаціць.

Грэнка. Чуеш, што кажа наш Сымон?

Шумяка. З'еўшы ўрадніцкае вуха, і не так яшчэ скажаш.

Грэнка. Вуха? Ха-ха-ха! Якое вуха?

Пясецкі *(да Гарнака)*. Ці не сасніў ты зноў чаго-небудзь?

Гарнак. Сніў, няхай яно прападзе. Сніў, што адкусіў вуха ў нашага ўрадніка і жаваў яго, а яно, падла, жорсткае, валасатае, аж хрыбусціць. *(Плюе. Усе смяюцца.)*

Пясецкі. Ён, як той біблейны Ёсіф, сніць прарочыя сны.

Булыга. А ну вас к ліху! Трэба лепш пайсці ды самавар паставіць. Добра таму, хто вуха з'еў. *(Выходзіць.)*

Гарнак. Ідзі, Булыга, паклапаціся, брат. Няхай будзе над табою благаславенне даўнейшага бога!.. А ведаеце вы, хлопцы, што? Ці не пападзем мы ў няволю да фараонаў? Ці не было гэта якое відзенне прарока Ісаіі?.. Трэба запісаць. *(Бярэ з шафы лісток паперы, садзіцца, піша.)*

Грэнка. Ён у нас такім стаўся філосафам, што і самога Спінозу за пояс заткне. Унь бачыш? *(Паказвае на кручок з паперачкамі.)* На кожны дзень піша якую-небудзь мудрасць або афарызм і вешае на кручок. У яго там цэлая скарбонка мудрасці... Ну, што ты напісаў?

Гарнак. Чакай, брат! Не перашкаджай! *(Гарнак піша, а ўсе пазіраюць і смяюцца ўголас.)*

Гарнак. Ну, слухайце! Прароцтва Падбрэхіча.

Пясецкі. Булыга! Хадзі слухаць прароцтва Сымонава.

Булыга ўваходзіць.

Гарнак *(чытае)*. Тако глаголе Падбрэхіч: «І прыдуць на вас дні, калі ўрадніцкія вушы будуць вашаю стравою. Але закалоціцца сэрца ваша, і пабяжыце вы ў каноплі. Пад крыллямі рыз Довідавага лапсердака будзеце шукаць вы прытулку. І нападзе страх на вас, і трэпет напоўніць вашы косці».

Грэнка. А няхай цябе качка стопча разам з тваім прароцтвам.

Гарнак падыходзіць да кручка і вешае «прароцтва».

Шумяка. Весела тут у вас, хлопцы, хоць і бесталкова.

Гарнак. У нас тут «дом крамолы і бязбожніцтва».

Шумяка. Калі так, то давайце адслужым акафіст. Маю новы акафіст, напісаны спецыяльна для вашай парафіі.

Усе. А ну, давай, памолімся!

Шумяка. Дайце мне коўдру замест рызы ды пашукайце чаго-небудзь, чым-бы можна было замяніць кадзіла.

Усе заварушыліся, бягуць шукаць патрэбных прыладаў. Грэнка нясе коўдру. Гарнак знайшоў на кухні стары старажоўскі лапаць замест кадзіла. Смех, шум, малады задор. Шумяка выбірае месца.

Шумяка. Калі я скончу літанне, то вы спявайце:

Што рабіць нам з Мікалаем?
Калі-ж яго пахаваем?
Ці сёлета, ці налета?
Калі збудзем ліха гэта?

Спявайце на матыў «Житейское море». *(Становіцца ў постаць папа, падымае вочы ўгору.)*

Як свет наш з'явіўся,
Людзьмі засяліўся,
Ад сівага веку
Не знаў чалавека,
Магу пабажыцца,
У заклад пабіцца,
Каб ён так маліўся!

Адслужым малебен,
Ці-ж цар нам патрэбен?
Патрэбен ён, братцы,
Як прус у аладцы,
Як у мосце дзірка,
Як з пілавін зацірка,
Як лата на шапцы.

Прыпеў.

Шумяка.

Вечная пагроза,
Цар — наша заноза.
Цар завёў ахранкі,
Думы-абяцанкі,
А жандары-служкі
Гнуць народ у дужкі.
Лупяць скуру з Янкі.

Хваліўся бясконца,
Йдучы на японца,
З мікады смяяўся,
Усім выстаўляўся

І кідаў мільёны
На цэркві, на звоны, —
Без флоту застаўся.

Прыпеў.

Шумяка.

Вось ліха наперла,
«Крамола» не змерла;
Не жыць з залатоўкі,
Пайшлі забастоўкі;
Мужык-жа рахманы
Зрабіўся паганы, —
Паліць паноў лоўка.

Цар напужаўся,
За Віту схаваўся,
Пабеглі Рыманы, Міны,
Царскія скаціны;
Нагайкі, расстрэлы
І лес штыкоў цэлы, —
Цягнуць людзей на асіны!

Пануй, Мікалае:
Часіна такая,
Трымайся прастолу,
А будзе вас гола.
Закончан малебен,
Ты нам непатрэбен,
Другі і апошні Мікола!

Прыпеў.

Шумяка (*зачынае новы прыпеў, усе дружна падхватваюць*).

«Святый боже» по речке плывет,
Алиллуя перепархивает.
Ой, жги, ой, жги, говори!
Алиллуя перепархивает!

Усе пускаюцца ўпрысядкі. Смех, шум. Адчыняюцца дзверы. Уваходзіць Насенка. Спыняецца на парозе, аглядае вясёлую кампанію. Трасе скруткам абаранкаў.

Насенка. Сей день, его же сотвори таракан, возрадуемся и возвеселимся в онь!

Гарнак. Ура, Насенка!

Булыга. Няхай жыве Насенка з абаранкамі!

Кідаюцца да Насенкі і гушкаюць.

Грэнка. Шкада, брат, што ты спазніўся, а мы тут такі малебен адслужылі, што аж небу горача было... Ну, хлопцы, будзем чай піць!

Усе заварушыліся, кінуліся па шклянкі, нясуць самавар, садзяцца за стол, п'юць чай, распытваючы Насенку, дзе ён дастаў абаранкаў.

Грэнка (*калі шум крыху ўлёгся*). А нам, хлопцы, трэба было-б сур'ёзна абмеркаваць нашу справу. Праўда, мы сабраліся гатавацца да навукі, але і гэтае работы не трэба кідаць. Работа наладжваецца. Грунт для работы ёсць добры. Сялянства прагавіта прыслухоўваецца, што робіцца ў дзяржаве, чакае змен і любіць гутаркі на палітычныя тэмы... Работу можна распачаць шырокую.

Шумяка. Гэта так. Але саму работу трэба павесці не такім шляхам, як мы вялі дагэтуль: кожны на свой розум. У аснову работы трэба палажыць нешта іншае. Затым трэба вызначыць і самую работу. Мы перш за ўсё — работнікі ў школе. Дык як быць: ці павесці работу праз школу, работу павольную, але пэўную, ці нам проста перанесці яе ў народ?

Пясецкі. А якую ты работу будзеш весці праз школу? Дзяцей агітаваць ці што?

Грэнка. Нам проста трэба склікаць з'езд, трэба самім арганізавацца і на з'ездзе вырашыць гэтыя пытанні.

Шумяка. Я з гэтым згодзен. Трэба перш за ўсё прыцягнуць настаўніцтва, згуртаваць яго. Тады мы будзем — сіла.

Булыга. Усё гэта добра, але ці многа вы знойдзеце такіх настаўнікаў. Нічога з гэтага не выйдзе.

Пясецкі. Ну, як не выйдзе? І настаўнікі знойдуцца. Вось я ведаю такіх — Піліпчык, Баханок.

Насенка. Лукашык, Прут, Куль, Бязмен.

Грэнка. Ды знойдуцца хлопцы, аб гэтым няма чаго і гаварыць.

Гарнак. Я, браткі, у гурце на што хочаце пайду. Гатоў не толькі ўрадніцкія вушы грызці — гатоў усім прыставам паадкусваць іх. А вось як зашыюся ў сваё Заямнае, дык мяне і няма: пачынаю містыкаю займацца.

Шумяка. Запомні ты маё слова, Падбрэхіч, што ты некалі ў манастыр пойдзеш і там душу богу аддасі.

Падбрэхіч-Гарнак. Не спрачаюся: і гэта магу зрабіць, бо людзі вельмі мала ведаюць саміх сябе. Але давайце, хлопцы, падкурым царскі лад, каб аж ад яго пыл пайшоў... Склікаць з'езд!

Галасы. Так, трэба склікаць.

Грэнка. Ну, давайце! Перш за ўсё: дзе склікаць? Калі і якім парадкам склікаць?

Шумяка. З'езд можна правесці тут. Сяло наша досыць глухое, паліцыя далёка... Трэба выбраць бюро і даручыць яму апавясціць настаўнікаў, людзей пэўных і надзейных.

Грэнка *(аглядае таварышаў)*. Ну, што? Хіба так і зробім? Давайце выбіраць бюро! Каго ў бюро?

Булыга. Грэнка, Пясецкі і Шумяка. Трох і хопіць.

Шумяка. Лепш выберыце Гарнака або Насенку ці Булыгу: вы тут разам жывяце, вам зручней.

Грэнка. Аб гэтым і спрачацца няма чаго. Няхай сабе я, Пясецкі і Гарнак.

Гарнак. Згодзен служыць грамадзе і жывот свой палажыць за другі свая!

Грэнка. Дык так і пастановім. А вы, хлопцы, нам дапамагайце. Трэба даць дараду, каго паклікаць. І вось аб настаўніцах — ці варта іх заклікаць: сярод іх мала ёсць свядомых. Хіба, можа, з вас хто ведае?

Насенка. Можна знайсці і добрых настаўніц. Не ведаеш ты іх... Го, брат, ёсць слаўныя дзяўчаты!

Шумяка. Хоць мала, але ёсць. Сярод іх ёсць не толькі з чырвоненькімі шчочкамі, але і з чырвоненькім душком.

Гарнак. «Не ўводзьце ў храм крамолы ні жанчыны, ні дзяўчыны, бо пойдуць сваркі паміж вамі», так напісана ў мяне на кручку.

Грэнка. Не, хлопцы! Мы заснуём моцную арганізацыю настаўніцтва на Беларусі. Мы першыя паложым камень у аснову гэтага вянца, і наш саюз разрасцецца ў моцную палітычную сілу. Мы захістаем апоры самаўладства!

Гарнак. Не захапляйся, Бас! Не будзь тым мужыком, што збіраўся лавіць зайца, каб прадаць яго і купіць свінню.

Грэнка. К чорту жарты! Няхай жыве настаўніцкая злучнасць!

Усе. Няхай жыве! Няхай жыве!

Уваходзіць Довід і спыняецца на парозе. Настаўнікі ўзварухнуліся.

Довід. Здрастуйце вам!

Насенка. Здароў, Довід, бацька ты наш родны! Каб ты ведаў, як рады мы цябе бачыць! Ну, проста як-бы сонца выплыла з-за хмары! Як жывеш? Як гадуешся? Ці вялікі вырас?

Довід (*добрадушна*). Х-хе-хе! Жыву памаленьку. Як маюцца гаспада настаўнікі?

Булыга. Злавіў ты нас, Довід, і ўцякаць нам няма куды, і цяпер мы — твае пакорлівыя слугі. (*Уздыхае.*) Але грошай, брат Довід, у нас няма, далі-бог няма.

Довід. Ну, то будуць, то будуць! Няма цяпер, — будуць у чацвер.

Гарнак. А я, Довід, павінен табе падзякаваць: каб не ты, дык на свеце было-б адным афарызмам меней.

Довід. Ну, і што гэта такое афарызм?

Гарнак. А гэта разумна выказаная думка, якая жыла ў галаве філосафа, а цяпер будзе вісець на кручку мудрасці. (*Садзіцца пісаць.*)

Довід. Ну, вы ведаеце навуку. (*Дастае з-за пазухі доўгенькую кнігу і бляшанку ад цукерак, дзе зложаны распісачкі.*) З гаспадзіна Грэнкі — пяць рублёў трыццаць сем капеек, з гаспадзіна Гарнака — два з палавінаю рублі, з гаспод Булыгі і Пясецкага — па чатыры рублі і з гаспадзіна Насенкі — тры рублі восемнаццаць капеек, а ўсяго — дзевятнаццаць рублёў пяць капеек.

Грэнка. Брыдка нам, брат Довід, перад табою! І доўг невялікі, і вядзецца даўно, але цяпер няма ні капейкі.

Довід. А можа, дасцё даручэнне на пенсію?

Булыга. Не бойся, Довід: усё заплацім. Пэвен будзь!

Довід. Я не баюся! Я не баюся! Я ведаю, што заплаціце.

Пясецкі. Праз месяц заплацім усе, як ёсць.

Довід. Ну, праз месяц — то праз месяц... А можа, вам трэба добрага тытуню? Папярос? Уй, папяросы! Сам Ла-

боцкі іх купляе, пан Лабоцкі! (*Дастае тытунь і папяросы.*)

Булыга. Ну, нам на Лабоцкага напляваць, але хіба, брат, дай напавер.

Галасы. Напавер, Довідка!

Довід. Ну, напавер — то напавер. (*Запісвае ў кнігу, устае, кланяецца, выходзіць.*)

Пясецкі. Няхай табе ваш Іегова здароўя дасць. Ты адзін трымаеш нас на свеце.

Довід запыняецца, усміхаецца, ківае галавою, выходзіць.

Гарнак (*чытае з лістка*). «Калі ў доме сабралася шэсць чалавек, дык няхай пяць гавораць, а шосты на варце стаіць».

*Заслона*

## АКТ ДРУГІ

Той самы пакойчык. За сталом сядзяць Грэнка, Гарнак, Пясецкі і Шумяка.

Шумяка. Многа вы чакаеце настаўнікаў на з'езд?

Гарнак. Заклікалі трыццаць шэсць чалавек. А колькі іх прыедзе — не ведаю.

Пясецкі. Хоць-бы палавіна прыехала — і то было-б добра.

Грэнка. Збярэцца не меней дваццаці. А гэта ўжо, брат, лічбіна. І дванаццаць чалавек досыць, каб заложыць аснову саюза. А там далучыцца іх многа.

Гарнак. А мне нейк трохі страшна, але разам з тым і прыемна. Люблю я хадзіць над бяздоннем, каб зірнуць яму проста ў вочы. А ў нашым гэтым з'ездзе ўсё-ж-такі ёсць вялікая рызыка.

Грэнка. Трэба рабіць так, каб гэтай рызыкі было меней. І добра мы зрабілі, што паставілі вартаўнікоў. А покі яны на варце, мы можам быць спакойнымі.

Гарнак. А скажыце, хлопцы, праўду: няўжо ў вас няма ніякага страху? Не веру я. І якія з нас, кажучы праўду, рэвалюцыянеры?

Шумяка. Каб быць рэвалюцыянерам, трэба рабіць рэвалюцыйную справу.

Грэнка. Ты, брат Сымон, як-бы на задворкі адыходзіш.

Гарнак. Не гарачыся, Бас. На задворкі я не адыду. Але мяне цікавіць наша псіхалогія: чаму мы робім іменна так, як збіраемся рабіць? І ці ёсць гэта сапраўднае развязанне задачы?

Грэнка. Глупства ты гаворыш! Калі над кожным пытаннем гэтак разважаць, то тады трэба прызнаць, што чалавеку не варта і на свеце жыць... Маўчы ты лепш.

Гарнак *(смяецца)*. Мы яшчэ толькі збіраемся за волю ваяваць, а ты ўжо зачыняеш мне рот. Мяне цікавіць больш у гэтым выпадку, кажу, наша псіхалогія.

Пясецкі. Якая псіхалогія? Дайце разгарнуць філосафу таямніцы яго душы.

Гарнак *(жартліва)*. Не, дыктатары! Не выкажу я вам мае думкі, бо грунт для яе цяпер неадпаведны. Я напішу яе ў форме афарызма, павешу на кручок, а вы потым прачытаеце. Той кручок ёсць родны кут мае мудрасці. А на сваім сметніку і певень гаспадар.

Уваходзяць Лукашык і Лясун.

Грэнка. Го-о! Прыляцелі першыя ластавачкі.

Лясун. Здарова, малайцы!

Лукашык. Здарова, запарожцы! *(Аглядае пакойчык.)* Дык вось яно, тое гняздо, адкуль вылятаюць моцныя, як арлы!.. А скажыце праўду, запарожцы: не сцапае тут нас паліцыя часам?

Грэнка. Не, смелы будзь: у нас вартаўнікі стаяць. Калі што — дадуць нам знаць. Булыга і Насенка на варце.

Гарнак. А калі і сцапае, дык не цябе-ж аднаго. Трэба-ж каго-небудзь сцапаць. На тое-ж яна і паліцыя.

Лукашык. Так ці іначай, а ты мяне заспакоіў. І ты кажаш праўду: трэба-ж і ёй на свеце жыць і хлеб есці.

Гарнак. Філосаф філосафа з поўслова зразумеў, што паміж філосафамі бывае вельмі рэдка.

Убягае Насенка.

Н а с е н к а. Гэй, хлопцы, ура! З Сярэдняй гары спускаецца армада педагогіі. Ідуць і песні зажарваюць. І, здаецца, Нічыпар іх вядзе. І дзве настаўніцы з імі.

Сярод настаўнікаў рух.

Г р э н к а. Бачыце, хлопцы, справа наша ідзе... Не, браткі, трэба толькі разварушыцца, шчыра аддаўшыся рабоце, тады можна многа чаго зрабіць.

Г а р н а к. Трэба іх спаткаць дастойна, а Нічыпара ўшанаваць.

Г р э н к а (*грозна*). Кінь, Сымон, свае жарты. Нідзе ты без іх не можаш абысціся. Тут справа сур'ёзная і да яе трэба адносіцца сур'ёзна. Не трэба камедыянства!

Г а р н а к. Вялікае і малое, трагічнае і смяхотнае поруч ходзяць.

З двара даносіцца песня.

Всё, чем держались их троны, —
Дело рабочей руки;
Сами набьём мы патроны,
К ружьям привинтим штыки.

У пакой уваходзяць н а с т а ў н і к і, чалавек дзесяць.

Н і ч ы п а р. Здарова, хлопцы. (*Бярэ за рукі настаўніц.*) А гэта вось... Настаўніцы — па адной на тысячу. Знаёмцеся, хто не знаёмы. Агата Гарэльская; за яе гаворыць яе прозвішча, яна гарыць агнём рэвалюцыі... Баханок Надзея, але не ўсім яна надзеі падае.

Г а р э л ь с к а я. Нашто так урачыста? Мы людзі ўсе свае. Здарова, калегі!

Здароўкаюцца, знаёмяцца. Насенка падносіць настаўніцам крэслы. Грэнка пакашлівае баском, падае наперад грудзі, прымае больш кавалерскую постаць. Пакойчык напаўняецца настаўнікамі. Пэўны час стаіць шум, тупат, разбіраюць крэслы, прысаджваюцца, некаторыя стаяць.

Г р э н к а. Сядайце, сябры, дзе пападзецца, у нас тут не дужа многа мэблі. Але, пацісн уўшыся, месца знайсці можна.

Н а с е н к а. Няхай жывуць настаўніцы! Толькі поплеч з жанчынамі і можна перавярнуць дагары нагамі царскі трон.

П р у т. Жанчына — душа мужчыны; яна наша натхненніца на вялікія справы.

Н і ч ы п а р. Няхай жыве рэволюцыя! Няхай жывуць рэволюцыянеры!

Ш у м я к а. Разбурым крэпасці і троны,
З астрогаў мы саб'ем замкі.
З парфіры царскай залачонай
Пашыем мы сабе парткі!

Г а л а с ы. Брава! Брава!

Агульны шум. Грэнка, Шумяка, Пясецкі і некалькі прыезджых настаўнікаў аб чымся ціха размаўляюць.

Л у к а ш ы к. Сябры! А можа, мы не будзем зводзіць час. Прыступім да справы, бо многія з нас не могуць доўга заставацца — на поезд спяшаюцца.

П я с е ц к і. Таварышы! Дазвольце слова! *(Шум ціхне.)* У нас ёсць ужо дзевятнаццаць чалавек. Я думаю, што болей не будзе.

Г а л а с ы. Не будзе болей!

П я с е ц к і. Дык, можа, мы і прыступім?

Г а л а с ы. Просім! Просім! А дзе будзе адбывацца з'езд?

Н і ч ы п а р. Як, дзе будзе адбывацца? Тут!

Л я с у н. А можа-б, мы пайшлі куды-небудзь у лес, у месца больш спакойнае і зацішнае?

Н і ч ы п а р. Не быў-бы ты Лясун! Цябе ўсё ў лес цягне. Якога чорта цягацца туды? Ты думаеш, на цябе ўжо ўся паліцыя глядзіць? Тут будзем — і баста.

Г а р н а к. Маладзец, Нічыпар! Не дарма-ж ты з японцамі ваяваў — так і відаць ваяку!

Г р э н к а. Таварышы-калегі! Меры забяспекі намі прыняты. У нас варта прызначана. А наша сялянства — народ свядомы: добра ведае, што настаўнік — не вораг яму, і ліха нам ніхто не зробіць.

Г а р н а к *(напаўголаса)*. Не пераскочыўшы, не кажы гоп!

Г р э н к а. Ну, разумеецца, за кожнага паручыцца нельга. І вы, едучы сюды, я думаю, не хваліліся, куды і чаго едзеце?

Г а р н а к. Цямна вада ва облацэх.

Г р э н к а *(да Насенкі)*. Таварыш Насенка, станавіся на варту.

Г о л а с. Хутчэй, хлопцы! Будзе вам антымонію разводзіць. Тут, дык тут.

П я с е ц к і. Тады дазвольце мне, як сакратару нашага бюро па скліканні на з'езд, абвясціць наш першы арганізацыйны настаўніцкі з'езд адчыненым. Прашу абраць старшыню і сакратара. З свайго боку, я лічу патрэбным назваць кандыдатуру Грэнкі. Па-першае, з'езд гэты склікан па яго пачыну; па-другое — ён тут гаспадар і па-трэцяе — «калач» ён цёрты: сам на з'ездзе быў, праўда, на дваранскім, але прадстаўніком ад сялянства. І на з'ездзе выявіўся з лепшага боку: узбунтаваў усе воласці Мінскага павета супраць дваран.

Г а л а с ы. Грэнка! Грэнка! Старшыня — Грэнка, а сакратар — Пясецкі.

П я с е ц к і. Хто за Грэнку, прашу падняць рукі. *(Падымаюць усе.)*

П я с е ц к і *(афіцыйна да Грэнкі)*. Таварыш Грэнка! Прашу весці наш сход.

Грэнка займае месца. Яго сустракаюць воплескамі. Ён сур'ёзны, усхвалёваны.

Г р э н к а. Шчыра вам дзякую, сябры, за гэты гонар, што вы мне аказалі, за гонар быць старшынёю першага ў гісторыі беларускага настаўніцкага з'езду. Перш чым прыступіць да работы, прашу, сябры, устаць і заспяваць «Вихри враждебные».

Усе ўстаюць і спяваюць.

Г р э н к а. Нам трэба выбраць сакратара — весці пратакол з'езду. Прашу назваць кандыдатаў.

Н і ч ы п а р. Просім Пясецкага. Ён ужо быў сакратаром бюро, сакратарскую справу ведае, піша добра, гаворыць складна...

Г а л а с ы. Пясецкі! Пясецкі!

Г р э н к а. Стаўлю на галасаванне.

Г а л а с ы. Нашто тое галасаванне?

Г р э н к а. Сябры, захоўвайце парадак! Хто за Пясецкага, падыміце рукі. *(Усе, як адзін, падымаюць рукі.)* Таварыш Пясецкі, прашу сюды. *(Пясецкі садзіцца за*

*стол, бярэ паперу.)* Сябры! На нашу долю выпала быць сведкамі вялікіх соцыяльных зрухаў. Мы перажылі хвалю забастовак, зямельных бунтаў і мяцяжоў у самой апоры самаўладства — сярод войска. Захісталася карона на царскай галаве, і быў момант, калі, здавалася, што гэтая карона вось-вось спадзе з галавы. Але вышлася не так. Стары, спарахнелы парадак знайшоў яшчэ сілы абараніць сябе і заліць агонь рэволюцыі крывёю. Мы ведаем імёны царскіх генералаў: Арлова, таго, што папсаваў усю справу царскіх стратэгаў пад Мукдэнам і прывёў да паражэння армію; Гершэльмана, Думбадзе і другіх «ісцінна-рускіх» гасільнікаў святла і новай праўды. Мы ведаем таксама, што і настаўніцтва не было глухім у гэтым змаганні. Мы ведаем, што многа настаўнікаў пасаджана ў астрогі і выслана ў Сібір. Але ці могуць гэтыя кары запалохаць нас? Ці могуць яны стрымаць бурлівыя крыніцы новага жыцця? Няхай не цешыць сябе стары лад тым, што дзевяты вал мінуў! Рэволюцыя прыдушана, але не задушана. *(Воплескі.)* І мы, настаўнікі, цела ад цела і косць ад косці народа, павінны спытаць сябе: што-ж нам рабіць? Да якога стану далучыцца нам? З кім нам ісці: з народам, ці з тымі, хто ідзе супраць яго дамаганняў? Сябры! Трэцяе дарогі нам няма. І калі мы скажам: у нас ёсць свая справа ў школе, мы будзем несці святло ў цемру народа, а народ, асвечаны праз школу, сам вызначыць свой лёс, дык мы ўпадобімся страусам, што хаваюць галовы ў пясок пад час небяспекі, і, выбраўшы такі шлях, мы адыдзем ад народа. Хістання тут не можа быць: або з народам, або супраць народа. Мы павінны на нашым з'ездзе падумаць аб гэтым і сказаць сваё слова. Тое настаўніцтва, што вырвана з нашых радоў, паказвае дарогу, па якой павінна ісці наша работа. Гэта — дарога змагання, дарога рэволюцыі. *(Воплескі.)* А каб гэта работа была больш спорная, яна павінна весціся па пэўнаму плану, а гэты план у нас толькі будзе тады, калі мы будзем аб'еднаны ў настаўніцкім саюзе... Няхай жыве настаўніцкі саюз! *(Воплескі.)* Хто хоча выказацца па гэтаму пытанню?

Усе маўчаць. Лукашык чухае галаву, хоча штось сказаць, але не адважваецца.

Гарэльская. Дазвольце мне.

Грэнка. Будзьце ласкавы.

Гарэльская. Наш старшыня ў сваёй прамове вельмі ясна акрэсліў нам дарогу. І мне здаецца, што мы, не трацячы на гэта многа слоў, павінны вынесці пастанову такую: з'езд прызнае патрэбным арганізаваць настаўніцкі саюз і прыняць актыўны ўдзел у палітычнай рабоце. А затым, каб сама работа стала больш плённай, мы павінны звязацца з пэўнай палітычнай арганізацыяй, якая ўжо даўно вядзе такую работу і мае ў гэтым сэнсе і практыку, і сілу, і сродкі і можа значна нам дапамагчы. Вось такая мая думка. *(Воплескі.)*

Лукашык. Дазволь і мне слова.

Грэнка. Слова мае сябра Лукашык.

Лукашык. Так-то яно так, але трохі і не так. Усё гэта добра. Але калі мы ўвойдзем яшчэ ў зносіны з якой-небудзь арганізацыяй, як нам тут кажуць, і гэта стане вядома «властем предержащим», — а што яно стане вядома, аб гэтым не можа быць і спрэчкі, — дык ад нас не застанецца і пылу. І гэтым самым мы так пашкодзім справе, што потым і не паправіш. Далей. Я не згодзен і з сябрам Грэнкам, які даводзіць, што калі мы павядзем культурную работу, дык адыдзем ад народа. Наадварот, такая работа толькі і патрэбна, толькі ў гэтай рабоце і можна быць карысным. Што-ж мы можам рабіць? Чытаць газеты...

Гарнак. «Гражданіна» манархіста князя Мяшчэрскага. *(Смех.)*

Прут. «Свет» Камарова.

Голас. З Грынгмута што-колечы. *(Смех.)*

Лукашык. Ёсць газеты і лепшага гатунку.

Шумяка. Напрыклад, «Знамя» Крушаванава.

Лукашык. Мне, урэшце, усё роўна, але праўду сказаць трэба. *(Змаўкае і хаваецца.)*

Гарнак. Брат-філосаф! Не давёў ты сваёй філасофіі да канца. Напішы і павесь на мой кручок мудрасці. *(Смех.)*

Нічыпар *(рашуча)*. Я хачу сказаць!

Грэнка. Слова належыць сябру Нічыпару.

Нічыпар. Аб чым тут доўга церабіць языкамі? Трэба нам саюз? Трэба! Дык давайце так і пастановім.

А што гаворыць Лукашык, дык таго і слухаць не варта. Раз ты ідзеш у саюз, дык усё роўна шыбануць цябе, калі дазнаюцца аб гэтым. А што ты газеты хочаш чытаць, дык чытай колькі ўлезе, не чытай толькі тых, што тут называлі. І няма ўжо чаго хітрыць: пусціўся Мікіта ў валакіту, дык ідзі і назад не азірайся. Вось я як мыслю! *(Шумныя воплескі.)*

Прут. Сябра старшыня, дайце слова.

Грэнка. Слова мае сябра Прут.

Прут. Сябры! Мы сабраліся не дзеля таго, каб разважаць, якія газеты чытаць, а якія не чытаць. Мы раскіданы па вёсках, па глухіх кутках. Паміж намі няма ніякіх зносін, няма таварыскага аб'еднання. Ці-ж можам мы, раскіданыя па адным, уяўляць сабою якую-небудзь грамадскую сілу? Адзін у полі, кажуць, не воін, але трэба зрабіць так, каб і адзін у полі стаўся воінам, воінам за пэўныя грамадскія ідэалы. Так, сябры, кіснуць, як кіслі мы дагэтуль, нельга. Прыспеў час, калі настаўнік павінен сказаць сваё слова. Трэба расчыніць вочы народу і паказаць яму, каго ён носіць на сваім карку і што бярэ за гэта ў адплату. А калі мы можам зрабіць гэта? Толькі тады, калі мы, як правільна казалі тут, будзем аб'яднаны, калі кожны з нас за сваёю спінаю будзе чуць падтрыманне сяброў, калі мы будзем, хлопцы, граць у адну дудку. Усе за аднаго, і адзін за ўсіх! Нам тут казалі, і мы гэта самі ведаем, што нашага брата многа сядзіць у астрогах. А што зрабілі мы, каб падтрымаць сваіх калег? Чым дапамаглі мы ім? Нічым. А чаму? Таму, што мы — клёпкі тае бочкі, на якой няма абручоў. Такім абручом і можа быць наш саюз. Гэты саюз — патрэба, вымаганне жыцця. Дык давайце-ж, сябры, злучымся ў гэтым саюзе, вызначым свае задачы і прыступім да работы цеснымі радамі! *(Воплескі.)*

Грэнка. Мне здаецца, сябры, што гэтае пытанне ўжо досыць высветлена.

Гарэльская. Прашу слова для прапазіцыі.

Грэнка. Будзьце ласкавы.

Гарэльская. Я прапаную прыняць такую пастанову: настаўніцкі з'езд прызнае патрэбным утварыць саюз настаўнікаў, паставіўшы сабе пэўныя заданні, — аб

іх мы будзем потым гаварыць, — і далучыцца да ўсерасійскага саюза настаўнікаў.

Б а х а н о к. Я далучаюся да гэтай прапазіцыі.

Л я с у н. Тут трэба акрэсліць больш пэўна тыя заданні, аб якіх гаворыцца ў прапазіцыі.

Ш у м я к а. Давайце мы прымем прапазіцыю ў аснове, а прэзідыуму даручым зрабіць канчатковую рэдакцыю. А потым мы заслухаем яе і зробім тыя ці іншыя папраўкі.

Г р э н к а. Тут фактычна дзве прапазіцыі: прапазіцыя і прапазіцыя да прапазіцыі.

Г а р н а к *(напаўголаса)*. Наш галава вашаму галаве галавою галаву разбіў.

Г р э н к а. Тады дазвольце паставіць на галасаванне прапазіцыю Гарэльскай. Хто за гэтую прапазіцыю, падыміце рукі.

Усе падымаюць рукі.

Г р э н к а. Прапазіцыя прынята. Цяпер хто за тое, каб даручыць прэзідыуму канкрэтна вызначыць задачы нашага саюза?

Падымаюць рукі.

Г р э н к а. Прынята. Цяпер, сябры, нам трэба мець нейкі кіраўнічы апарат нашага саюза, сталае бюро, якое-б вяло справы нашага саюза, — словам, прыдаць яму нейкі юрыдычны твар. Гэтае бюро трэба выбраць на доўгі тэрмін, самае меншае на адзін год, у складзе: старшыні, сакратара, па адным намесніку іх і скарбніка, а ўсяго пяць чалавек. Можа, у каго ёсць другія праекты?

Н і ч ы п а р. Мне здаецца, што досыць і трох чалавек, — тым болей, што саюз наш покі што невялікі, а з часам бюро можна будзе і павялічыць.

Г а л а с ы. Даволі будзе трох!

Г р э н к а. Ёсць дзве прапазіцыі: выбраць сталае бюро з пяцёх чалавек — мая прапазіцыя, і прапазіцыя сябра Нічыпара — з трох чалавек. Галасую сваю прапазіцыю. Хто за тое, каб бюро выбраць з пяцёх чалавек, падыміце рукі. *(Лічыць.)* За маю прапазіцыю шэсць чалавек. Хто за тры? Ну, большасць за тры. Значыць, бюро будзе з трох чалавек. Прашу назваць кандыдатаў.

Г а л а с ы. Грэнка! Шумяка! Гарэльская! Пясецкі!

П я с е ц к і. Нічыпар! *(Запісвае.)*

Г р э н к а. Ужо ёсць пяць кандыдатаў.

Г а л а с ы. Просім галасаваць!

Г р э н к а. Першая мая кандыдатура. Сябра Пясецкі, прагаласуй! *(Збіраецца выйсці.)*

Г а р э л ь с к а я. Я прашу маю кандыдатуру зняць.

Г а л а с ы. Просім! Просім не адмаўляцца.

Г а р э л ь с к а я. Я буду прасіць з'езд уважыць маю просьбу і маю кандыдатуру зняць. Я лічу, што, жывучы далёка, я не буду магчы працаваць акуратна. А тут у вас ёсць злітнае ядро.

Г р э н к а. Нам было-б вельмі пажадана, каб вы былі ў складзе нашага бюро; гэта мела-б уплыў на далучэнне ў наш саюз настаўніц.

Г а р н а к. Не так настаўніц, як настаўнікаў.

Г р э н к а. Як лічыць з'езд: ці можна ўважыць просьбу таварыша Гарэльскай?

П р у т. Я, сябры, лічу, што, наогул, у склад бюро павінны ўвайсці тыя, хто бліжэй жыве, каб лягчэй маглі збірацца. З гэтае прычыны просьбу Гарэльскай трэба ўважыць.

Г р э н к а. Хто за тое, каб зняць кандыдатуру таварыша Гарэльскай?

Галасаваннем кандыдатура Гарэльскай знімаецца. Грэнка выходзіць.

П я с е ц к і. Хто за Грэнку, падыміце рукі. Выбраны аднагалосна. Паклічце сябра Грэнку.

Г р э н к а ўваходзіць, яго сустракаюць воплескамі.

Г р э н к а. Цяпер галасую Пясецкага.

Пясецкі збіраецца выйсці.

Н і ч ы п а р. Навошта гэта цыганская цырымонія? Усё роўна выберам, я ўжо вось падымаю дзве рукі.

Г а л а с ы. І мы!

Г р э н к а *(махае рукою)*. Выбраны. Хто за Шумяку? *(Усе падымаюць рукі.)* І так, у бюро выбраны: Грэнка, Пясецкі і Шумяка. *(Воплескі.)*

Н і ч ы п а р. А ўжо ролі свае вы размяркуеце самі:

хто скарбнік, хто старшыня і сакратар. Затым, ці нельга было-б зрабіць невялічкі перапынак.

Г р э н к а. Паступіла прапазіцыя зрабіць перапынак. Таварышы! Нам засталося яшчэ абмеркаваць памер членскіх узносаў. Нам грошы патрэбны будуць на розныя справы. Я думаю — мы скончым гэтае пытанне, тады і зробім перапынак.

Г а л а с ы. Давайце так!

Г р э н к а. Я думаю, сябры, што членскі ўзнос павінен быць не менш трох рублёў у год.

Г а л а с ы. А калі грошы ўносіць?

Г р э н к а. Першы ўзнос, я думаю, трэба зрабіць на працягу месяца. Дык як, сябры, па тры рублі не будзе многа?

Г а л а с ы. Заплацім! Унясём.

Г р э н к а. Другіх пытанняў няма?

Г а л а с ы. Няма!

Г р э н к а. Абвяшчаю перапынак на пяць хвілін. Далёка не расходзьцеся, сябры. За гэты час прэзідыум падрыхтуе пратакол з'езду, а потым у нас будзе сяброўская закуска.

Настаўнікі ўстаюць, частка выходзіць, частка застаецца. Каля настаўніц збіраецца гурток. Чуецца смех, жарты. Настаўніцы выходзяць. Грэнка і Пясецкі застаюцца за сталом. Да іх падыходзіць Шумяка. У пакоі застаюцца Гарнак і адзін з прыезджых настаўнікаў.

П я с е ц к і. У мяне пратакол, можна сказаць, гатовы.

Утрох чытаюць, радзяцца паціху, папраўляюць.

Н і ч ы п а р *(уваходзячы)*. Дзівак гэты Лукашык. Я думаў, ён хлопец нішто сабе, аж ён здорава дрэйфіць.

П р ы е з д ж ы. А што-ж ты думаў? Тут, брат, калі што, па галоўцы не пагладзяць.

Н і ч ы п а р. Дык не было чаго і ехаць. А то хоча быць рэвалюцыянерам і ў начальства пашану мець.

Г а р н а к. Лагоднае цялятка дзвюх каровак ссе.

Сыходзяцца настаўнікі. Некаторы час шум.

Г р э н к а. Сябры, увага! Сакратар прачытае пратакол.

П я с е ц к і *(устае)*. Пратакол першага настаўніцкага з'езду 9 ліпеня 1906 г. На з'ездзе было 19 чалавек. Вы-

слухаўшы даклад аб сучасным палітычным стане ў дзяржаве і аб ролі настаўніцтва, якую яно павінна выпаўніць, з'езд пастанавіў:

1. Арганізаваць настаўніцкі саюз. Саюз ставіць сваёю бліжэйшаю задачаю аб'еднанне ўсяго актыўнага настаўніцтва на Беларусі.

2. Каб работа саюза ішла ў згодзе з работаю ўсерасійскага саюза настаўнікаў, з'езд пастанавіў далучыцца да ўсерасійскага саюза настаўнікаў.

3. Задачаю сваёй чыннасці з'езд ставіць: змаганне з царскаю ўладаю ў інтарэсах вызвалення народа з-пад уціску дваранства і капіталістаў; вызваленне школы ад яе старых традыцый і ўхілаў, нязгодных з патрэбамі часу і інтарэсамі народа.

4. Для кіравання справамі саюза выбраць бюро ў складзе трох асоб тэрмінам на год. Бюро склікае з'езды настаўнікаў па меры патрэбы.

5. На расходы па справах саюза рабіць членскія ўзносы ў размеры 3-х рублёў у год. *(Садзіцца. Воплескі.)*

Г р э н к а. Якія папраўкі хто хоча зрабіць?

Г а л а с ы. Прымаецца.

Н а с е н к а *(уваходзячы)*. На гарызонце нідзе ніякага чорта не відаць. Усё спакойна.

Г р э н к а. Сябры, прашу падпісаць пратакол.

Г а р н а к. Каму абрыдла жыць на свеце, ідзіце і падпісвайцеся.

П я с е ц к і. Мне, як сакратару, трэба было-б распісацца апошнім, але я распішуся першым. А той, хто распішацца апошнім, будзе палічан за сакратара. *(Падпісваецца.)*

Настаўнікі збіліся каля стала.

Г а р н а к. Пусціце настаўніц распісацца, вахлакі! Ніякае ў вас пашаны да кабет!

Настаўніцы падпісваюцца і выходзяць. За імі ідзе Булыга.

Г р э н к а. Сябры! Праз поўгадзіны будзе вячэра. Будзьце ласкавы, прыходзьце вячэраць.

Застаюцца Нічыпар, Пясецкі, Гарнак, Шумяка, Грэнка, Лясун і некалькі прыезджых настаўнікаў. Пратакол ляжыць на стале.

Гарнак *(разглядае подпісы)*. Не распісаўся адзін Булыга.

Грэнка. Ну, чорт яе бяры з паліцыяй: сваю справу мы зрабілі. Абы толькі пратакол у рукі ім не папаў... Ну, хлопцы, трэба-ж нам да вячэры гатавацца.

Дзверы з шумам і парывіста адчыняюцца. Высокі, тонкі, худы, як кашчэй, ураднік з крыкам: «Ні з месца!» кідаецца на пратакол. Пясецкі прабуе схапіць таксама, але пратакол застаецца ў руках урадніка. Следам урываецца 10 паліцэйскіх стражнікаў і прыстаў. Крыкі: «Рукі ўверх!» Грэнку стражнікі з двара прыводзяць у пакой.

Грэнка *(да пристава)*. Якое маюць права вашы слугі прыкладамі біцца?

Прыстаў. Во-первых, не мои слуги, а во-вторых, кто вам велел в окно кидаться?

Гарнак стаіць з паднятымі ўгору рукамі. Яго трасуць стражнікі. Другія стражнікі выкідаюць з шафы на стол кнігі і паперы. Ураднік знімае з кручка афарызмы Гарнака, чытае і перадае приставу.

Прыстаў *(прабягае іх вачыма і чытае ўголас)*. «Урадніцкія вушы будуць вашаю стравою». Гм! Это пахнет максимализмом!.. К делу! *(Перадае стражніку.)*

Гарнак. Ці нельга, гаспадзін прыстаў, да гэтага прароцтва дабавіць яшчэ адно?

Прыстаў. Что вы хотите добавить?

Гарнак. Самы канец: «І меч архангела загародзіць вам дзверы раю».

Прыстаў. Это теперь и так ясно. *(Чытае далей.)* «Калі ў доме сабралася шэсць чалавек, дык няхай пяць гавораць, а шосты на варце стаіць». Совет разумный. *(Злосмешна.)* А вас девятнадцать человек собралось, а вы ни одного караульного не поставили!.. Вот как оно бывает! *(Чытае другі лісток.)* «Калі ўсякая ўлада ад бога і калі пристава лічыць за ўладу, дык скажу вам, другі мае, усунуў бог уладу, як у пень яловы». *(Прымае позу абурэння.)*

Голас. Праўда!

Прыстаў. Н-да! Не особенно проникнуты здесь уважением к законной власти. *(Чытае далей.)*

Ганчакамі па Русі
Приставы лятаюць,

І цкуюць: «кусі-кусі!»
І людзей страляюць.

Это — оскорбление агентов правительственной власти, честных слуг отечества!.. Да, гнездышко, доложу вам! *(Злосна.)* Не гоняя вас, бунтовщиков и крамольников, сам рискуешь быть загнанным в тюрьму!

Урадні к. Адседава, ваше высокоблагородие, исходит всяческая крамола и прокламации.

Урываецца Булыга.

Булыга. Насілу давёў гэтым вось дулупетням, што я — крамольнік: не хацелі пускаць мяне сюды... А дзе наш пратакол? *(Аглядаецца.)* Дзе, пытаюся, пратакол? Я-ж яшчэ не распісаўся! Гаспадзін прыстаў, дазвольце пратакол! *(Бярэ пратакол ад урадніка, садзіцца і распісваецца, робячы вялікі росчырк.)* Наце вам пратакол і ведайце, які я слаўны чалавек. *(Варочае пратакол.)*

Нічыпар перахватвае пратакол і ў момант вока рве яго і кідае кускі ў розныя бакі. Стражнікі кідаюцца на Нічыпара, настаўнікі скубуць шматкі пратакола, некаторыя бяруць у рот кусочкі паперы.

Прыстаў. Собрать клочки протокола!

Урадні к. Ваше высокоблагородие! Они их скушали.

Прыстаў *(у злосці)*. Сволочи! Перестреляю, как собак!.. А вы, подлецы, как упустили такой важный документ. Негодяи!.. Арестовать крамольников!

Паліцыя акружае настаўнікаў.

Прыстаў. Ведите их!

Нічыпар. Хлопцы! Паходную песню. *(Падхватваюць разам: «Смело, товарищи, в ногу!»)*

Прыстаў *(замыкаючы працэсію)*. Заткнуть им глотки!

Каля школы з'яўляецца натоўп сялян. Паліцэйскіх, што канваіруюць настаўнікаў, акружаюць варожа настроеныя сяляне.

Селянін. Невадок закінулі? Не чапаць нікога. Вон! Арыштаваць нашых настаўнікаў не дазволім.

*Заслона*

# У пушчах Палесся

Драма ў 4-х дзеях
(Паводле аповесці «Дрыгва»)

## ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

Дзед Талаш — стары селянін, партызанскі камандзір
Бабка Наста — яго жонка
Максім — іх старэйшы сын
Панас — малодшы сын, падлетак
Мартын Рыль — малады селянін, партызан
Жыбуль — большэвік, падпольшчык
Шалёхін — камандзір батальёна
Грыгарук, Пятраш, Путнік — ротныя камандзіры
Нупрэйка, Купрыянчык, Балук, Будзік — партызаны
Дарвідошка
Букрэй — узводны камандзір
Кухарык — польскі салдат, які перайшоў да чырвоных
Бусыга — войт
Бруй, Бірка — яго прыяцелі
Аўгіня — жонка Бусыгі
Алеся — яе дачка
Саўка Мільгун — вясковы злодзей
Пан Крулеўскі — польскі афіцэр, памешчык
Польскі афіцэр — памочнік Крулеўскага
Гэмбіцкі — шпіён-дыверсант

Ксёндз Пацэйкоўскі
Пан Дэмбіцкі — палкоўнік
Галініч — беларускі нацдэм
Польскі вартавы.
Чырвонаармейцы, партызаны, легіянеры

Дзея адбываецца на Палессі ў час вайны з белапалякамі.

## АКТ ПЕРШЫ

### *Карціна першая*

Хата Васіля Бусыгі. Прасторная, чыстая. Фіранкаю падзелена на дзве часткі: ад адзежнай шафы да пераду печы. У куце стаіць стол, засланы белым абрусам. Над сталом абразы, упрыгожаныя вышытым ручнікам. Ад стала па абедзвюх сценах праходзяць шырокія лавы. Бліжэй да печы на табарэціку сядзіць Алеся, развёўшы рукі, на якіх скрутак нітак. Аўгіня, насупраць Алесі, звівае ніткі ў клубок. Збоку відаць ганак, далей вясковая вуліца.

Алеся. Заспявай мне, мама, песню: я люблю, калі ты спяваеш.

Аўгіня. Якую-ж ты хочаш песню?

Алеся. А вось гэту:

З гары па даліне
Галубы лятаюць
Ды з белае бярозанькі
Лісце абіваюць.

Аўгіня *(уздыхае)*. Сумная гэта песня, жаласная. А я хачу, каб табе спяваліся вясёлыя.

Алеся. А навошта пяюць сумныя песні?

Аўгіня. Калі каму нявесела, цяжка на сэрцы, дык і песні хочацца спяваць такія-ж.

Алеся. А ты чаму сама спяваеш іх? І табе нявесела?

А ў г і н я. А вось-жа і ты хочаш слухаць сумную песню. А хіба табе цяжка з маткаю. Ну, добра: заспяваю тваю песню, а ты памагай мне.

Аўгіня пачынае песню. Алеся далучае свой голас. Праспявалі першы куплет. Рвецца нітка.

А ў г і н я. Вось і нітка парвалася. *(Звязвае нітку.)* Не хочуць ніці слухаць нашу песню.

А л е с я *(смяецца)*. Мусіць, ніцям весела... *(Іншым тонам.)* Раскажы мне, мама, як белую лебедзь сом на возеры глынуў...

А ў г і н я. А мы сходзім як-небудзь да дзеда Талаша. От ён умее казкі казаць. Ён сам бачыў, як сом хапаў лебедзь.

А л е с я *(у захапленні)*. Сходзім, мамачка, ды папросім яго, каб ён мяне на чоўне павазіў, як калісь і цябе вазіў.

З вуліцы чуваць песня. Праходзіць С а ў к а М і л ь г у н. Адзеты бедна: у падранай світцы і лапцях. З-пад заношанай шапкі выбіваюцца ўскудлачаныя валасы. Саўка не спяшаецца, ідзе павольна, спявае:

Гаварыла маці мне:
«Не сябруй з ліхімі —
У Сібір-катаргу сашлюць
Цябе разам з імі».

С а ў к а. Здарова была, што вышла за вала!

А ў г і н я. Чаму-ж ты, Саўка, сам да мяне не пасватаўся?

С а ў к а *(задаючыся)*. Гм... Шмат вашага брата квапілася на мяне, ды Саўка не хоча з бабаю надоўга звязвацца. Рахунку ніякага няма.

А ў г і н я. Ты, Саўка, проста лодар — на чужое квапішся.

С а ў к а *(смяецца)*. Вядома... Слухай, гаспадыня, хоць ты з Вепраў Аўгіня: вырвала-б ты хоць шарсцінку з свайго вала ды Саўку дала...

А ў г і н я. Ну, досыць брахаць, ідзі куды ідзеш.

С а ў к а. Не, не пайду, хачу ў цябе сала папрасіць, бо няма чым Саўку закусіць, а не дасі, дык украду. *(Аўгіня выходзіць.)* Саўка чалавек праўдзівы, што ска-

заў, тое і зробіць. (*Крадзе сыр, які сушыцца на ганку. Увайшла Аўгіня.*)

Аўгіня. На, вазьмі... (*Дае яму сала.*)

Саўка. Дзякую. Дык бывай тая, па якой сам Саўка ўздыхае. (*Кланяецца, ідзе далей, спявае тую-ж песню.*)

Павядзе цябе канвой
По матушцы Расіі,
Зголяць, зголяць волас твой
Аж да самай шыі.

Аўгіня (*заўважае прапажу*). А, зладзюга, без кражы не абышоўся.

Песня заціхае. Саўка знікае з вачэй.

Аўгіня (*пазірае на вуліцу*). Хто-ж гэта там? Няўжо Мартын? (*Углядаецца.*) Ён.

Мартын Рыль праходзіць, стараецца не глядзець на акно, у якім стаіць Аўгіня.

Аўгіня (*моўчкі пазірае і калі бачыць, што Рыль ужо мінае хату, аклікае*). Мартын...

Мартын. А, гэта ты, Аўгінька. Здарова.

Аўгіня (*з дакорам*). Ужо не хочаш і зірнуць у мой бок, Мартыне.

Мартын (*падыходзіць бліжэй*). Спяшаюся, Аўгінька.

Аўгіня. Куды-ж так спяшаешся?

Мартын (*асцярожна азіраючыся навокал*). Справа паварочваецца так, што мне трэба пакінуць гэтыя мясціны.

Аўгіня (*з крыўдаю ў голасе*). І ты, Мартын, не сказаў мне аб гэтым, нават не зірнуў, што я стаю і гляджу на цябе.

Мартын (*апускае вочы, момант маўчыць*). А якое права маю я пазіраць туды, дзе стаяць чужыя жонкі. Каб была маёю, дык глядзеў-бы кожны дзень. Маёю-ж ты быць не захацела. Бо што такое я? Галяк... Такі, як наўперад была і ты сама. Ну, бывай. Мая дарога вунь з імі, чырвонымі. (*Адыходзіць.*)

Аўгіня. Ах, божа мой! Чырвоныя адыходзяць.

Алеся (*уваходзячы*). Мама, тата прышоў.

Уваходзіць Васіль Бусыга.

Мне сказаў Кухарык, салдат, які перайшоў да нас разам з Талашовым Панасам, што нашага Краскіна ён бачыў сярод польскіх афіцэраў.

Ш а л ё х і н *(незаметна ўздрыгвае)*. Ну, гэта проста нейкае непаразуменне, глупства.

Б у к р э й. Я таксама не надаў значэння словам Кухарыка, але гэта паведамленне мяне заскрэбла дужа непрыемна, і я рашыў пагаварыць з табою, таварыш камандзір. Мала што.

Ш а л ё х і н. Правільна, Букрэй, правільна... Дзякую табе за паведамленне. Дарэчы, вось што. Паколькі ты тут, перадаю табе баявую задачу. Вазьмі свой узвод і заставайся ў ар'ергардзе для прыкрыцця батальёна ў час нашай аперацыі.

Б у к р э й. Ёсць, таварыш камандзір.

Ш а л ё х і н. Ну, цяпер можаш ісці. Яшчэ раз дзякую. *(Букрэй паварочваецца, выходзіць.)* Стой, дружок... Вось што. Аб Краскіну нікому ні слова і пашлі мне Кухарыка.

Б у к р э й. Слухаю, таварыш камандзір.

Букрэй выходзіць. Шалёхін зноў застаецца адзін. Задумваецца.

Ш а л ё х і н. Чорт яго знае... Гм. Ну, добра. *(Азіраецца навокал, запыняе погляд на чырвонаармейцах, якія спяць крэпкім сном.)* Натаміліся, бедныя, спяць сном праведнікаў. І не дзіва, тры ночы не прыкладалі галоў.

Кладзецца на дол, падпірае галаву рукою. Ляжыць нерухліва. Потым прахопліваецца, рука машынальна намацвае рэвальвер. З лесу высоўваюцца два сілуэты.

Ш а л ё х і н *(Настаўляе наган)*. Хто там?

В а р т а в ы. Гэта да вас, таварыш камандзір.

Т а л а ш *(падымае ўгару палец, дае знак маўчаць)*. Цсс! Гэта я — Талаш. І Жыбуль. Паратунак нясем вам.

Ш а л ё х і н *(праціраe вочы)*. Талаш? Жыбуль? Сон гэта ці што? *(Устае. Жыбуль і дзед Талаш падыходзяць да яго.)*

Ж ы б у л ь. Здароў, брат!

Ш а л ё х і н *(абнімае Жыбуля)*. Здароў, здароў, браток! *(Да дзеда Талаша.)* Здароў, бацька!

Т а л а ш. Падымайце, голубе, байцоў, і зараз-жа ў паход.

Ш а л ё х і н *(здзіўлена)*. У паход?

Т а л а ш. Цсс! За намі на Прыпяць: наш флот і нашы матросы чакаюць вас, голубе.

Ж ы б у л ь. Мабілізаваны лодкі і чаўны. Аддавай загад на пасадку.

Краскін незаўважана выпаўзае з-за кустоў, падслухоўвае.

Ш а л ё х і н. Пастойце, таварышы. Тры белапольскія батарэі з таго берага чакаюць нашай пераправы.

Т а л а ш. Ведаем, голубе, ведаем. Цяпер гэтыя батарэі больш не панскія, а нашы, рабоча-сялянскія.

Лес ажывае. Збіраюцца камандзіры, чырвонаармейцы.

Ш а л ё х і н. Таварышы, я адмяняю свой загад. Заразжа ціха, без мітусні і шуму, арганізавана, весці роты для пераправы на лодках.

К р а с к і н. А ўсё-ж-такі, таварышы, па сутнасці мой план бярэ верх.

Ш а л ё х і н. Фядот, ды не тот, таварыш Краскін! Ты будзеш пры мне неадлучна.

Уваходзяць Б у к р э й і К у х а р ы к у форме польскага салдата.

К у х а р ы к *(углядаецца ў Краскіна)*. Пан Гэмбіцкі?

Краскін бляднее, потым кідаецца бегчы. Букрэй хапае яго за шынель.

Б у к р э й. Позна ўцякаць!

## *Карціна другая*

У штабе белапалякаў. Пrасторны пакой, абстаўлены ў панскім гусце. Пры адной сцяне стаіць стол. На стале пісьмовы прыбор, паперы, ваенныя карты. На сцяне вісіць карта Польшчы. Крулеўскі чытае апошнія навіны і данясенні. Афіцэр стаіць каля карты, павешанай на сцяне, разглядае раён ваенных аперацый. У меру чытання Крулеўскі ўсё болей і болей хмурыцца. Нарэшце ўскідае плячамі, кладзе паперы на стол.

К р у л е ў с к і. О, сто д'яблаў! І як гэта магло здарыцца? Не разумею. *(Сядзіць моўчкі, абапёршы лоб на далонь.)*

Афіцэр (*адрываецца ад карты, пазірае на Крулеўскага*). Што так здэнтанавала пана капітана?

Крулеўскі. Наш план і наша стратэгія, пане паручніку, пайшлі псу пад хвост.

Афіцэр (*пацiскае плячамі*). Не разумею пана капітана.

Крулеўскі (*ківае на карту*). Батальён чырвоных шайтанаў, прыпёрты да Прыпяці і фактычна акружаны, вырваўся з мяшка, не страціўшы ні аднаго чалавека. Але гэтага мала, пане паручніку, тры нашы батарэі, перапраўленыя на другі бераг Прыпяці, захоплены ворагам... О пся маць!

Афіцэр (*у здзіўленні ўскідвае плячамі*). Фацэція... А што-ж пан Гэмбіцкі?

Крулеўскі (*перабівае*). Пан Гэмбіцкі зрабіў усё, што можна зрабіць. Болей таго, ён у рот палажыў нам увесь большэвіцкі батальён. І не яго віна, што мы не патрапілі з'есці яго.

Афіцэр (*разводзіць рукамі*). Толькі шайтан мог пераправіць сваіх д'яблаў і вырваць іх з пасткі.

Крулеўскі. У тым-та і бяда, што шайтана мы не злавілі, пане паручніку.

Уваходзіць легіянер.

Легіянер (*бярэ пад казырок*). Да пана капітана войт інтарэс мае.

Крулеўскі (*у злосці*). Да ста д'яблаў твайго войта!.. Пачакай. Закліч яго тутай.

Легіянер прыводзіць Бусыгу.

Бусыга (*нізка кланяецца*). Дзень добры, яснавяльможнаму панству.

Крулеўскі (*мяняе тон, далікатна*). Дзень добры пану войту! Проша сядаць. (*Бусыга садзіцца.*) Што мае сказаць пан войт.

Бусыга. Нядобрыя навіны, вяльможны пане-васпане.

Крулеўскі. А якія-то навіны?

Б у с ы г а. У лесе каля смалакураўскіх буданоў пастухі знайшлі забітых паліцыянтаў і майго чалавека Саўку. Ён быў прыстаўлены, пане-васпане, асачыць табар старога разбойніка Талаша і павёў туды паліцыю, і ніхто назад, я так думаю, адтуль не вярнуўся.

А ф і ц э р. Матка боска! О шайтан стары!

К р у л е ў с к і *(да афіцэра)*. Што робіцца ў нас, пане паручніку!

Б у с ы г а. Партызанскі зброд, вяльможны пане-васпане, расце. Ён ужо мае свайго камандзіра, атамана шайкі. І гэты атаман, я так думаю, ні хто іншы, як стары Талаш. А правая рука яго — вядомы Рыль, што быў арыштаваны ды збег з-пад канвою. Запраўляе-ж і канаводзіць усім бальшэвіцкім збродам нейкі Жыбуль. Яго павуцінаю аблытаны ўсе вёскі.

К р у л е ў с к і. Разблытаць і вымесці, пане паручніку, усю павуціну, а павука на агні спаліць.

А ф і ц э р *(дастае са стала папку, гартае)*. Так, так, пане войт: Жыбуль значыцца ў спісках, як самы небяспечны. Нашым агентам аддадзен катэгарычны загад злавіць яго, пане капітан.

К р у л е ў с к і. Час, час нам, пане паручніку, залучыць яго ў свае рукі.

Б у с ы г а *(дастае з кішэні лісток)*. Вось, проша панаваспана, іхні лісток, брыдкі і агідны, я так думаю.

Крулеўскі і афіцэр бяруць лісток, разглядаюць.

К р у л е ў с к і *(чытае ўголас)*. «Тоўстамордаму свінячаму войту Бусыгу. Ведай, панскі падбрэхіч, цябе чакае тое самае, што і твайго Саўку. Не цяпер, дык у чацвер будзем судзіць і цябе, як судзілі панскіх шпегаў, а разам з табою і тваіх бязмозглых паноў, і ў першую чаргу твайго»... *(Кідае лісток.)* О пся маць!

Бусыга падымае лісток і аддае падышоўшаму афіцэру.

А ф і ц э р. «І ў першую чаргу твайго задрыпу пана Крулеўскага. Занясі яму гэта пісьмо — няхай пачытае і ён. Мы дазваляем яму ўкусіць сябе за тое месца, якое ён выбярэ сам».

А ф і ц э р. Якое нахабства!

Узрушаны Крулеўскі шпарка ходзіць па пакоі, потым запыняецца каля Бусыгі.

Крулеўскі. Няхай пан войт зробіць распараджэнне выслаць у лес фурманкі. Загінуўшых на варце айчыны няхай агледзіць камісія на чале з панам следчым і доктарам, пасля чаго пахаваць урачыста пры імшы і касцельным звоне.

Бусыга. Слухаю пана!

Крулеўскі. Пан войт павінен прыняць захады для выкрыцця злачынцаў. Гэтага патрабуюць інтарэсы маткі Польшчы і ўласныя інтарэсы пана войта.

Бусыга. Слухаю пана!

Крулеўскі. Пан войт можа быць вольным. *(Лёгка ківае галавою.)*

Бусыга. Довідзэння, панове.

Бусыга выходзіць, нізка пакланіўшыся. Афіцэр сядзіць, перагортвае паперы, потым адкладае іх, барабаніць пальцамі па стале.

Крулеўскі *(прайшоўшыся па пакоі)*. Што, пан паручнік, скажа на гэта?

Афіцэр. А трэба, пане капітан, прысляшыць высылку ў лес вайсковых часцей для поўнага зліквідавання шаек бальшэвіцкіх бандытаў.

Крулеўскі. Так, так: пан паручнік мае рацыю, мосці дабрадзею. Трэба, нарэшце, скончыць з гэтым хлопскім збродам. За барбарскую расправу з агентамі польскага жонду, за нахабныя лісткі — расстрэл на месцы кожнага бандыта. Халупы іх пусцім дымам у паветра. *(Зноў у абурэнні ходзіць па пакоі.)* Я сам, пане паручніку, мосці дабрадзею, станаўлюся на чале карнай экспедыцыі.

Афіцэр. І гэта будзе, пане капітан, вернай гарантыяй поўнага вынішчэння бальшэвіцкіх карэнняў па вёсках.

Крулеўскі *(пыхліва стукае кулаком па стале)*. Яны адчуюць маю руку, пане паручніку, мосці дабрадзею!

Уваходзіць легіянер.

Легіянер. Пане капітан. Прывялі затрыманых: жабрака з кабетаю.

Крулеўскі. Жабрака? А на д'ябла ён?

Легіянер. Жабрак, пане капітан, падазроны.

Афіцэр. Трэба, пане капітан, зірнуць на яго.

Крулеўскі. Ну, то вядзі яго сюды.

Легіянер адчыняе дзверы. У пакой уваходзіць жабрак у лахманах, абвешаны торбамі, з доўгім кіем, з сіваю бародкаю, збітаю ў касмыкі. Пераступіўшы парог моўчкі, запыняецца. Стаіць і трасецца. Крулеўскі і афіцэр моўчкі ўглядаюцца ў яго.

Крулеўскі. Сконд ты ест?

Жабрак (*не разумее*). Га?

Афіцэр. Адкуль ты?

Жабрак. З лесу. Адкуль-жа я?

Крулеўскі. А хто ты такі?

Жабрак. Га? Жабрак я.

Крулеўскі. А чаго ты трусішся?

Жабрак. Напалохалі мяне, панок.

Крулеўскі. Хто напалохаў?

Жабрак. Га? Ну, хто-ж? Яны, чэрці. З дрыгвы павылазілі. А дрыгва там вялікая. Людзі не ходзяць па ёй: ступіш — правалішся і наверх не выбярэшся.

Крулеўскі. Раскажы нам падрабязна пра іх. Мы ніколі не бачылі чарцей.

Жабрак. Кінь, панок, пытацца пра іх. Сніцца паганыя потым будуць.

Афіцэр. Не, сноў мы не баімся. А ці не пакажаш нам тое месца, адкуль яны павылазілі?

Жабрак. Ой, баюся я. Але з вамі, паночкамі-ваякамі, не так страшна. Гэта, як ісці адсюль, дык за Доўгім бродам.

Крулеўскі. Стой! Лжэш, галгане. (*Хапае жабрака за бародку. Барада застаецца ў руцэ Крулеўскага*). Ну, мосці дабрадзею, што-ж скажаш ты цяпер?

Афіцэр (*узіраецца ў твар жабрака*). Пастой, пастой каханы. Дзе гэта бачыў я тваю хамскую морду. (*Прыпамінае, пасля кароткай паузы да пана Крулеўскага.*) Пане капітан! А гэта той самы, што з-пад канвою збег, Мартын Рыль.

Крулеўскі (*уражаны*). Рыль? Ты Рыль?

Рыль не адказвае. Афіцэр зрывае з яго торбы і лахманы. З-пад лахманоў паказваецца наган. Афіцэр яго вырывае.

Афіцэр (*да Крулеўскага*). Пан капітан памятае. Гэта яго пан капітан наказваў канвою глядзець, як свае вока.

Крулеўскі (*прыглядаецца да Рыля*). А, памятаю, кандыдат у большэвіцкія камісары?.. Ну, цяпер ты будзеш віляць, як сабака хвастом?

Мартын (*панура*). Я не панскае пароды.

Крулеўскі. О, які ганарысты! Але амбіцыю сваю схавай у кішэню. Лепей пагаворым спакойна. Як шпіён, ты падлягаеш смерці без усякага суда. Аднак лёс твой яшчэ ў тваіх руках. Мы табе даруем жыццё, калі ты чэсна перад панам богам і маткай боскай раскажаш усю праўду аб сваіх хаўрусніках. Падумай і скажы.

Мартын (*некаторы час панура маўчыць*). Калі-б вы папаліся ў мае рукі, дык у мяне і гутаркі не было-б, каб зрабіць вас здраднікам. За каго-ж вы мяне лічыце?

Крулеўскі. З кім ты раўняеш мяне, хаме?

Мартын. Я памыліўся: такога параўнання вы не варты.

Крулеўскі. Цо? Пся маць!

Афіцэр (*надзяваючы на руку кастэт*). У нас, апроч слоўнай мовы, ёсць мова іншых спосабаў.

Мартын. Чуў пра іх. На гэта-то вы мастакі.

Крулеўскі. Хто твае хаўруснікі? І дзе яны?

Мартын. Мае хаўруснікі — Іван, Сцяпан, Даніла, Кірыла, Кандрат, Ігнат, Яхім ды Трахім, ды Мацей з Аўдзеем. А дзе яны? Яны ўсюды. Нават сярод польскіх салдатаў многа ёсць.

Крулеўскі. Лжэш, хаме! Польскі жолнеж — верны сын свае ойчызны.

Мартын. Дык кепска пан ведае сваіх салдат.

Афіцэр. А скажы, Талаш — атаман вашага хлопскага зброду?

Мартын. Мы не зброд! А мы тутэйшыя людзі, а з прыблудным збродам мы ваюем.

Афіцэр (*іранічна*). Ах, пшэпрашам! Я пытаюся: хто атаман славутага партызанскага войска?

Крулеўскі. Чаму не адказваеш?

Мартын (*сеў*). Не люблю пустых гутарак.

Крулеўскі. Пустых гутарак? А дзе знаходзіцца ваша шайка?

Мартын. Там, адкуль зручней біць славутае панскае войска.

Крулеўскі (*трацячы здольнасць валодаць сабою*). Галган! Большэвіцкая зараза! Мы развяжам твой язык і навучым цябе пачцівасці. (*Шпарка падыходзіць да стала, звоніць, націскаючы на кнопку.*)

Уваходзіць начальнік варты са словамі: «Слухаю пана капітана», бярэ пад казырок.

Крулеўскі. Пасадзіць гэтага разбойніка пад самы строгі арышт і надзець яму наручнікі. (*Некалькі легіянераў накідваюцца на Рыля і надзяваюць яму наручнікі. Паручнік б'е яго, бездапаможнага, кастэтам па твары.*) Памятайце, што адзін раз ён ужо збег.

Начальнік каравула адчыняе дзверы, свішча ў свісток, уваходзяць легіянеры. Рыля пад канвоем выводзяць. У пакоі застаюцца Крулеўскі і афіцэр.

Крулеўскі (*да афіцэра*). Ну, што скажа пан паручнік?

Афіцэр. Зацятая юха, пан капітан. Але мы пасадзім яго на кабылу, тады ён вылажыць усё, што нам трэба. А цяпер, пане капітан, учынім допыт кабеце. Жанчыны больш падатлівыя.

Крулеўскі. Так, так, пане паручніку: праз іх мы павінны дабрацца да гэтых бандытаў.

Афіцэр (*адчыняе дзверы*). Прывесці сюды затрыманую кабету. (*Варочаецца, садзіцца за стол, каб запісваць паказанні допыту.*)

Крулеўскі шпацыруе па пакоі. Легіянер прапускае ў пакой жанчыну. Жанчына запыняецца, шырока адкрытымі вачамі глядзіць на Крулеўскага і на афіцэра. Ён таксама ўзіраецца ў яе. На іх тварах адбіваецца здзіўленне.

Крулеўскі (*у здзіўленні*). Пані вайтова! Як разумець тую акалічнасць, што пані апынілася ў кампаніі бандыта Мартына Рыля?

Аўгіня (*уздрыгвае*). Рыля? Дык гэты жабрак, пане афіцэр, і быў Рыль?

Крулеўскі. А пані вайтова не знала? (*Недаўменна.*) То як-жа магло здарыцца, што вас затрымалі разам?

Аўгіня (*бярэ сябе ў рукі, жахаецца*). Ох, божачка!

А здарылася-ж так. Хадзіла я да свае маткі. Яна ў другой вёсцы жыве, у Вепрах. Ішла я адна дадому, аж выходзіць з лесу жабрак, заступае дарогу: «Ідзі, кажа, са мной». Я давай прасіцца... І так і сяк, а ён ні на якія просьбы не паддаецца... Пагражаў мне і прымусіў ісці разам. Куды і чаго, ён не сказаў мне.

К р у л е ў с к і (*задаволены расказам*). Ах, так. То іншая справа. Проша пані сядаць.

Аўгіня садзіцца, напускае на сябе вясёласць.

А ф і ц э р (*з усмешкай галантнага кавалера*). Пані така слічна і не дзіва, што гэты лайдак забраў вас у палон. (*Аўгіня апускае вочы. Да пана Крулеўскага.*) Хлопская тактыка тут зразумела: залучыўшы пані вайтову, яны разлічвалі на кішэню пана войта. Яны меркавалі, пані вайтова, за вас атрымаць выкуп.

К р у л е ў с к і. Пан паручнік мае рацыю. (*Да Аўгіні.*) А не скажа, пані, што ён гаварыў вам?

А ў г і н я (*прыкідваючыся*). Распытваў пра войта, куды ён ходзіць, якія людзі бываюць у яго.

А ф і ц э р (*да Крулеўскага*). О, цяпер праліваецца святло на іх брудны падкідны лісток, пане капітан.

За сцэнаю чуваць голас Рыля: «Прэч, каты!» Тупат ног, свісткі. Крулеўскі і афіцэр кідаюцца да акна. Аўгіня сядзіць акамянелая, толькі рукі трасуцца.

К р у л е ў с к і (*каля акна, стараецца захаваць спакой*). Што там за гармідар?

А ф і ц э р (*трывожна*). Ці не хлопскі-то налёт, пане капітан?

Абодва хапаюцца за рэвальверы, выбягаюць з пакоя.

А ў г і н я (*адна*). О, каб яны падаспелі сюды... Матачкі, пазналі яго. Бедны, родны Мартын. (*Стрэл.*) Няўжо ты не вырвешся з панскіх ланцугоў? (*Кідаецца да дзвярэй.*) Што-ж мне рабіць?

Уваходзіць а ф і ц э р.

А ф і ц э р. Шайтан які! Разбіў наручнікі аб галаву няшчаснага начальніка варты. Але, пані вайтова! Пані мо-

жа быць спакойна. Жабрак пайшоў жабраваць на той свет... Пан капітан яго прыстрэліў.

Аўгіня змяняецца з твару і падае з крэсла. Афіцэр падбягае да яе, падымае. Уваходзіць Крулеўскі.

Крулеўскі. Што тут здарылася, пане паручніку?

Афіцэр. Проша падаць вады, пане капітан. Пані вайтова абамлела.

Крулеўскі налівае шклянку вады. Аўгіню прыводзяць у прытомнасць, саджаюць на крэсла. Аўгіня п'е ваду, збіраецца з мыслямі.

Аўгіня. Ох, божухна! Даруйце мне, паны афіцэры: я так напалохана, што не магу чуць страляніны.

Крулеўскі. То ніц, ніц, пані вайтова, проша заспакоіцца. *(Падыходзіць да шафіка, дастае графін, налівае чарку, бярэ плітку шакалада, падносіць Аўгіні.)* То пані замест лякарства кропля польскай старавудкі ўзмоцніць сілы.

Аўгіня. Дзякуй, пане афіцэру, за турбацыю. Усё прайшло, і я зусім здаровая.

Крулеўскі. Калі пані дазволіць, я маю да пані яшчэ адно запытанне: ці не помніць пані тое месца, дзе сустрэўся жабрак?

Аўгіня маўчыць.

Крулеўскі. А можа, пані была-б так ласкава і паказала-б нам гэта месца?

Афіцэр. Няхай пані нічога не баіцца, мы гарантуем пані поўную бяспеку.

Аўгіня *(апускае галаву, збіраючыся з думкамі)*. Я баюся, пане афіцэру, таго месца. Там непадалёку партызанскае табарышча. Там яны туляюцца. А, барані божа, даведаюцца пра мяне, дык не жыць мне на свеце.

Крулеўскі. Дзеля пана бога і польскай дзяржавы, а таксама і для свайго ўласнага дому пані павінна пайсці на невялічкую ахвяру — перамагчы свой страх і нерашучасць. Гэтага патрабуе абавязак кожнага грамадзяніна Жэчы паспалітай. Ухіленне ад гэтага святога абавязку можа быць вытлумачана, як спачуванне пані вайтовай да большэвіцкіх бандытаў.

Аўгіня *(сядзіць у часе прамовы, апусціўшы галаву, пры апошніх словах уздрыгвае)*. Я згодна.

## *Карціна трэцяя*

Глухі лес. Між дрэваў, азіраючыся, прабіраецца чалавек, селянін па абліччу і адзежы. Чалавек туляецца між карчоў. Раптам перад ім выступае партызан са стрэльбай, настаўляе штык, пераймае дарогу.

Балук (*грозна*). Стой!

Чалавек палохаецца, запыняецца.

Балук. Ты хто?

Чалавек. Ды я, браток, з тутэйшых месцаў.

Балук. Куды ідзеш?

Чалавек. Спаліў маю ўсю гаспадарку паляк... Іду да свайго родзіча ў Пласкінь. Можа, хоць з пуд жыта на хлеб дастану. Дзеці галодныя сядзяць. Пусці мяне, браток!

Балук (*сурова*). Шмат у каго цяпер галодныя дзеці. (*Дастае свісток, збіраецца свістаць.*)

Чалавек. Злітуйся, братка! Не рабі гэтага, пусці мяне. (*Засоўвае руку ў кішэню, дастае грошы.*) Вось вазьмі і пусці мяне. А я вам зла не мыслю.

Партызан не зварочвае ўвагі, дае свісток.

Чалавек. Братка! Нашто ты губіш дзяцей маіх?

Балук. Разабрацца трэба, хто ты і з чым ідзеш.

З лесу выходзіць дзед Талаш. Глядзіць на незнаёмага чалавека.

Талаш. А што тут у цябе, голубе? Хто такі?

Балук. З тутэйшых, кажа. Ідзе ў Пласкінь да сваяка. Грошы даваў мне, каб пусціў яго.

Талаш (*да чалавека*). Хто ты будзеш такі, голубе?

Чалавек. А вы, бацька, прыгледзьцеся да мяне добра, можа, пазнаеце?

Талаш (*углядаецца*). Жыбуль! Дык ты жывы, здаровы?

Жыбуль. Я, дзядзька Талаш, паміраць не збіраюся.

Талаш. Вось гэта добра! Даўно, голубе, не бачыў я цябе. Хлопцы нашы ўжо непакоіцца пачалі.

Жыбуль. Дарма! Чаго там непакоіцца? Усё пакуль што добра ідзе. Была ў нас нарада — два дні цягнулася.

Адусюль наехалі: і з-пад Полацка, з-пад Слуцка, з-пад Барысава. Пад Барысавам сам Орджанікідзе аперацыяй кіруе.

Т а л а ш. А ты яго бачыў, голубе?

Ж ы б у л ь. Бачыў.

Т а л а ш. Вось гэта, мусіць, ваяка! Эх! Паглядзець хоць-бы на яго сваімі старымі вачамі, голубе!

Ж ы б у л ь. Пажывем, дык і пабачым. Ведаеш, бацька, Врангель зліквідаваны. Сілы Чырвонай Арміі рушылі сюды, супроць паноў. Даволі ім гаспадарыць на нашай зямлі. А я вось, бачыце, правяраю вашу варту. Малайцы. Дысцыпліна ў вас і пільнасць — што называецца.

Т а л а ш *(задаволены)*. Ого! Маім хлопцам пальца ў рот не кладзі, голубе.

Б а л у к. А як-жа іначай.

Т а л а ш (да Жыбуля). Іначай, голубе, і няможна. Асабліва ў гэты час, калі мы вось-вось чакаем панскага войска.

Ж ы б у л ь. Раскажыце, як тут справа стаіць.

Т а л а ш. Данеслі нам, голубе, нашы людзі, што пан Крулеўскі збіраецца на нас з войскам, ды не ведае, дзе наша галоўная сіла. Вось мы — я і Мартын Рыль — злажылі свой план: выбраць зручную для нас пазіцыю і завабіць пана з войскам. Гэту пазіцыю і абралі мы тут. Непадалёку ёсць дрыгвяністае балота... Мы і хочам, сынку, да балота іх прыперці і ў дрыгву загнаць. Калі нам удасца гэты план, усё будзе добра, голубе.

Ж ы б у л ь. А як-жа вы думаеце завабіць Крулеўскага?

Т а л а ш. Мартын Рыль сам узяўся зрабіць гэта. Жабраком для гэтага адзеўся, сынку.

Ж ы б у л ь. Важныя навіны і план задуман добра.

Т а л а ш. Каб толькі з Мартынам чаго не здарылася.

Ж ы б у л ь. Тут, бацька, трэба гадаць і так, і сяк. Розныя здарэнні могуць быць... Аднаго толькі не трэба спускаць з увагі: кожная наша ўдача, поспех падымаюць дух барацьбітоў і паўстаўшага народа. Ці ўсё зроблена, каб забяспечыць наш поспех?

Т а л а ш. Мы сабралі тут усю нашу грамаду ваякаў. Кулямёты паставілі ў надзейнае месца, голубе. Ваякі

нашы на зямлі, у зямлі і над зямлёй: на дрэвах сабе пазіцыі абралі. На варце людзі надзейна стаяць.

Дзед Талаш паварочваецца ў той бок, адкуль чуецца голас трубы.

Талаш (*да Жыбуля*). Голубе Жыбуль. У лесе паляк. Слухай. Зараз закукуе зязюля. *(Стаяць, слухаюць. Збоку чуваць «ку-ку», «ку-ку».)* Чуеш? Гэта азначае, голубе, — станавіся на сваё месца. Пойдзем.

Жыбуль і дзед Талаш ідуць у лес. Сцэна на некаторы час застаецца пустою. За сцэнаю з процілеглага боку чуваць голас Крулеўскага. Уваходзіць Аўгіня.

Аўгіня. Хоць-бы каго пабачыць. *(Выпаўзае Дарвідошка.)* Цсс, папярэдзь нашых... Крулеўскі тут з войскам.

Дарвідошка. Ведаю. Пастарайся затрымаць тут. Дзе яны?

Аўгіня. Хавайся, каб не ўбачылі. *(Вышла.)*

Дарвідошка. Ну, брат Дарвідошка, не падгадзь, ну, але. *(Таксама выходзіць.)*

Крулеўскі (*уваходзіць*). Пане паручніку, прыняць болей сталыя меры забяспекі. Рух войска прыпыніць, даць адпачынак і выслаць дадатковыя дазоры.

Паручнік. Слухам, пане капітан. *(Выходзіць.)*

Крулеўскі *(ідзе з Аўгіняй)*. Дык пані кажа да іхняга станавіска яшчэ вёрст пяць будзе?

Аўгіня. Не меней, пане афіцэру. Можна і адпачыць трошкі.

Крулеўскі *(запыняецца, абводзіць поглядам лес)*. Можна адпачыць... Якая пушча!

Аўгіня. Тут, пане афіцэру, ёсць дуб... вось ён. *(Паказвае на дуплаваты дуб.)* Пра гэты дуб застаўся расказ у народзе.

Крулеўскі. Цікава. Няхай пані будзе ласкава, раскажа.

Аўгіня. Не ўмею я, пане афіцэру, складна расказваць.

Крулеўскі *(прыкладае руку да сэрца)*. З вуснаў пані ўсякае слова, як чарка польскай старавудкі.

Аўгіня. Не смейцеся з мяне, пане афіцэру!

Крулеўскі. Я праўду кажу, пані, як бога кохам. І хачу, каб пані расказала легенду аб дубе.

А ў г і н я. Людзі так гавораць. Туляліся калісь у гэтым лесе два разбойнікі, родныя браты. Награбленае дабро хавалі ў дубе. Раз аднаго брата цяжка паранілі. Другі брат прывёў яго сюды. І вось нейкі злы дух пачаў яму нашэптваць: «Дабі брата, усё дабро табе аднаму застанецца». Усю ноч адганяў ён ад сябе гэтыя шэпты, а раніцою не ўтрымаўся і забіў брата. Вось кожны год у той дзень, калі забіў брат брата, чуецца голас каля гэтага дуба: «Помста! помста!»

К р у л е ў с к і. Легенда якраз стасуецца з гэтым цёмным лесам.

А ў г і н я. А вось, пане афіцэру, калі ўлезці на гэты дуб, то ў прагале між галін відаць і балота, пра якое расказваў пану жабрак Рыль. На балоце ёсць востраў. Ці не там хаваюцца партызаны?

К р у л е ў с к і. А-а! Так, так, пані. То трэба, пані, разведку зрабіць. *(Падыходзіць пад дуб і аглядае яго.)* Што, пані, так пазірае?

А ў г і н я. Ой, якая-ж я дурная. Пастух статак гоніць, а мне здалося нямаведама што. Схавайцеся, пане афіцэру, а я пайду распытаюся.

К р у л е ў с к і *(хаваецца за дуб)*. А ладная, пся крэў, кабета. Але дзе-ж яна падзелася?

Ваенная труба падае баявы сігнал.

К р у л е ў с к і *(некаторы час сядзіць, прыпаўшы да дуба, потым крычыць)*. Пане паручніку! Ка мне на ратунак.

З лесу выходзяць дзед Т а л а ш і Б у д з і к.

А ў г і н я. Сюды! Унь ён, забойца!

Крулеўскі з рэвальверам у руцэ кінуўся бегчы.

Ж ы б у л ь *(выбягаючы з лесу)*. Стой!

Наводзіць на Крулеўскага наган. Крулеўскі страляе ў Жыбуля. Жыбуль выпускае наган, асядае на калена, хапаецца рукой за левы плячук. Талаш страляе ўсутыч у Крулеўскага. Крулеўскі падае.

Т а л а ш *(нахіляецца над Жыбулём)*. Жывы, голубе?

Ж ы б у л ь. Плячо гарыць, бацька, а так — глупства.

У лесе грыміць «ура».

Т а л а ш. Чуеш, голубе, наша бярэ! Перавяжы, Аўгінька, рану... Вылечым цябе, сынку, на радасць нашу.

Жыбуль прабуе падняцца сам. Аўгіня падтрымлівае яго, памагае сесці.

Ж ы б у л ь. Потым, потым, Аўгінька, магу пачакаць. (*Прабуе павярушыць леваю рукою. Грымаса болю адбіваецца на яго твары.*)

Бой і музыка. Цёмна, потым світае.

### *Новы малюнак*

Т а л а ш. Так, таварышы-голубе, партызанскае войска. Яшчэ адна перамога наша. Але знімем шапкі, ушануем памяць ваякаў, што загінулі ў бітвах з панамі за грамадскую справу. (*Усе моўчкі знімаюць шапкі.*) Сярод вас, голубе, партызанскія камандзіры, не далічваемся мы... (*голас яго дрыжыць*) аднаго з лепшых нашых камандзіраў.

З натоўпу ціхія галасы: «Рыль, Мартын Рыль».
Аўгіня стаіць з нізка апушчанаю галавою, журботная.

Т а л а ш. Эх, Мартыне, голубе! Не парадуешся ты з намі радасцю перамогі над панамі. Загінуў Мартын.

Г а л а с ы. Смерць панам! Адпомсцім за Мартына!

А ў г і н я. Я на допыце паклялася адпомсціць за яго: заступіла яго месца і прывяла забойцаў сюды.

У натоўпе чуваць галасы: «Загінуў бедны», «Які быў чалавек!».

Ж ы б у л ь (*устае, абапіраючыся здароваю рукой на плячо Аўгіні*). Таварышы, такія людзі, як Мартын Рыль, не ўміраюць у памяці народа. Ён будзе служыць кожнаму з нас прыкладам барацьбіта. Будзьце-ж і вы такімі, як ён.

Г а л а с ы. Будзем біцца за справу, якую рабіў Мартын.

У с е. Будзем!

А ў г і н я. Я прашу вас, даражэнькія, памагчы мне знайсці яго цела, каб пахаваць. Не патрапіла я жыць разам з ім, дык хоць буду прыходзіць на яго магілу з

сваёй дачкой. Яна — усё, што ён пакінуў мне. Яна — яго родная дачка.

У с е. Дачка!

Г о л а с. Алеся — Мартынава дачка.

Т а л а ш. Знойдзем, знойдзем, Аўгінька. Пахаваем як героя, таварышы партызаны! Я хачу выказаць сваю і вашу падзяку партыі. Яна паслала нам на дапамогу свайго лепшага сына, таварыша Жыбуля. Гэта ён, голубе, збіраў нас, пакрыўджаных панамі і параскіданых, як пажоўклае лісце ў полі. Гэта ён развязваў нам вочы, падымаў на змаганне і засланяў нас сваімі грудзьмі. Дык будзем-жа біцца з панамі, покі хоць адзін пан застанецца на нашай роднай зямлі.

У с е. Будзем! Будзем!

Д а р в і д о ш к а. Дазволь мне, бацька камандзір, слова.

Т а л а ш. Кажы, голубе!

Д а р в і д о ш к а (*выходзіць з натоўпу*).

Покі ў свеце ёсць паны,
Зброі не паложым.
Толькі мы, а не яны,
Зробім свет прыгожым.

Ж ы б у л ь. Ваяваць, сябры, да канца ваяваць!

Усе падымаюць вінтоўкі, спяваюць:

Расступіцеся, лясы,
Перад нашай сілай,
Няхай стануць верасы
Панскаю магілай.
Будзем, будзем гнаць паноў
Біць, як чортавых сыноў.

*З а с л о н а*

## ПРЫМАЮЦЬ УДЗЕЛ:

Дзед Мікіта — селянін, гадоў за 60
Бабка Тацяна — яго жонка, 55 гадоў
Міхась — сын дзеда Мікіты, салдат запасу, гадоў пад 30
Наста — жонка Міхася, 25 гадоў
Гараська — сын Міхася, хлопчык, гадоў 9
Алесь — вясковы настаўнік, кватарант дзеда Мікіты, 25 гадоў
Марына — настаўніца, гадоў 20
Аслаў — сусед дзеда Мікіты і прыяцель, заіка, гадоў за 60
Думака Патап — шахцёр, прыяцель Алеся, гадоў 25
Дзяменя Дзямян — бабыль } Запасныя, гадоў па 30
Дроб Паўлюк
Гузыр Андрэй
Тэкля — вясковая кабета, гадоў 40
Караліна — дурная жанчына, гадоў пад 50
Стараста — селянін, гадоў пад 40
Поп
Бухрай — заможны селянін, 45 гадоў
Максім Кучаравы — большэвік-падпольшчык, гадоў 30
Шышла — паліцэйскі ўраднік, гадоў 30
Будан-Рыльскі — земскі начальнік, афіцэр запасу, гадоў 35
Жухін — афіцэр-ліберал } гадоў па 25 — 30
Першы афіцэр, дваранін
Другі афіцэр, кадравік
Сястра міласэрная
Дзесяцкія, салдаты, афіцэры, матросы,
сяляне, сялянкі

## АКТ ПЕРШЫ

Сярэдзіна лета. Вясковая вуліца. Адным канцом упіраецца ў пясчаны бераг рэчкі. На беразе дзе-ні-дзе стаяць нахіленыя вербы. Недалёка ад рэчкі стаіць хата дзеда Мікіты з адчыненым акном. Насупроць хата Аслава. Аслаў папраўляе сеці. Дзед Мікіта клепле касу. Берагам ідуць Марына і Алесь, гутараць, прыслухоўваючыся да ціхай жніўнай песні з поля.

Я малада з поля ішла,
Пад поясам сярпок нясла,
За плячыма калысачку.
Сустрэў мяне родны татка:
— Чыё, донька, дзіця нясеш?
— Нясу дзіця суседскае.
— Чаму, донька, тваё ліцо?
— Мой татачка, мой родненькі!
Яно пры мне раджалася,
Яно пры мне гадавалася,
А ў маё ліцо ўдавалася.

Ды я жала да вечара,
Ды жала я да вечара.
Баліць мая сярэдзіна.
Каб я мела дзіцятачка,

Каб у мяне маленькае,
Можа-б яно заплакала,
Дык я-б яго скалыхнула,
Сярэдзіна-б адпачнула.

Алесь *(запыняецца)*. Вось ты зірні, Марынка, якая спакойная, якая ціхая гэтая сельская ваколіца і колькі ў ёй смутку і, ведаеш, нейкага тужлівага задумення.

Марына. Ты, здаецца, упадаеш у лірычны настрой.

Алесь. Не, я проста хачу адзначыць, што гэты спакой фальшывы.

Марына. Не зусім ясная думка.

Алесь. Ды я-ж і не выказаў яе да канца. Слухай, і ты пачуеш вялікую праўду.

Марына. Калі ты скажаш вялікую праўду, дык я абвяшчу цябе прарокам і першая пайду за табою.

Алесь *(хітра)*. Памажы-ж мне, божа, сказаць вялікую праўду... Не, я лепей запішу яе наўперад у сваю кніжку. *(Дастае запісную кніжку, піша.)*

Марына. Ну, пакажы.

Марына заглядае ў запіс. Алесь хавае, не паказвае.

Алесь. Не, не пакажу: а раптам ты скажаш, што гэта не такая праўда, каб абвяшчаць мяне прарокам. Не, не.

Марына. Ну, пакажы.

Алесь. Не, не: не хачу рызыкаваць.

Смяюцца, праходзяць.

Аслаў *(да дзеда Мікіты, ківаючы галавой у іх бок, заікаючыся)*. Ш-ш-шпацыруюць настаўнік і настаўніца.

Дзед Мікіта. А што ім рабіць, чуй, дурань-браце. Маладыя.

На вуліцы паказваецца жанчына з сярпом, перавязаным анучкаю, і са збанком на восілцы ў руках. Ідзе борзда, спяшаецца. Аслаў расстаўляе рукі, як-бы хоча злавіць яе, перагароджвае дарогу.

Аслаў *(расставіўшы рукі)*. І-і-і не пушчу. *(Тэкля кідаецца ў другі бок, каб абысці Аслава. Аслаў зноў перэймае.)* Сказаў — нне ппушчу, і-і-нне ппушчу.

Тэкля. Ды кінь. Няма калі жартаваць!

Аслаў. Не, нне ппушчу!.. Ччаму ты нне сказала мне «дзень добры?»

Тэкля. Ды адвяжыся-ж ты, слата. Стары чалавек, а робіць чорт ведае што.

Аслаў. Вось-жа і-і-і нне адвяжуся. Чаму-ж нне сказала «дзень добры?»

Тэкля. Ну, дзень добры, няхай ты недажджы.

Аслаў (*не апускаючы рук*). А-а-а цяпер позна... Сскажы, куды ідзеш? Б-б-брэшаш, Тэкля, і-і-і нне ппушчу!

Тэкля злосна плюе, парываецца ў другі бок. Аслаў загароджвае дарогу.

Тэкля (*злосна*). А бадай табе, Аслаўка, вочы загарадзіла, як загарадзіў ты мне дарогу. Вось вар'ят чалавек, зусім ужо здзяцінеў.

Аслаў. Сскажы, куды ідзеш, тады ппушчу.

Тэкля. Аслаўка, родненькі! Пусці-ж ты мяне — не да жартаў мне: жыта асыпаецца на полі. І так выбралася позна.

Аслаў (*апускае рукі*). Ччаму-ж ты адразу так не сказала? А то і сабе ччас зводзіць і ад мяне адбірае... Ну, ідзі сабе.

Тэкля борзда ідзе далей.

Дзед Мікіта. Ха-ха-ха! Чуй, дурань-браце: стары ўжо ты чалавек, а ўсё дзівацтва не кідаеш. Ха-ха-ха! Жанчына ледзь са скуры не выскачыць, на поле бяжыць, а ён запыняе.

Аслаў. А хто-ж іх і розуму навучыць, калі не я?.. Ты, вось, глядзі, Мікіта: замест таго, каб ісці проста і зразу сказаць, куды ідзе, яна пачынае блытацца, перашкоды абмінуць хоча.

Дзед Мікіта. Ды як-жа ёй, чуй, дурань-браце, і не абмінаць, калі на дарозе вось такі пень стаіць.

Аслаў. А ты ўмей цераз пень пераскочыць латвей.

Уваходзіць Патап. Ён коціць кола.

Патап. Дзень добры, дзядзькі!

Дзед Мікіта і Аслаў. Дзень добры, Патапе, дзень добры!

Патап (*да Аслава*). Дык, дзядзька, усё вучыш?

А с л а ў *(рашуча)*. А і вучу! Вось ты скажы, колькі разоў ляжа іголка ад Мазыра да Слуцка?

П а т а п. Закавыкі твае я ведаю, а ты скажы мне лепш, дзядзька Аслаў, чаму адны працуюць, а жывуць у бядзе і нэндзы? Другія-ж нічога не робяць і жывуць у раскошы. Нашто поп і паліцэйскі стражнік?

Д з е д М і к і т а *(да Аслава)*. Ну, чуй, дурань-браце, растлумач.

А с л а ў. Мудра запытаў, мудра. Не быў-бы то Думака-шахцёр.

Д з е д М і к і т а. А што, Аслаў, чуй, дурань-браце, папаўся!

А с л а ў *(да Патапа)*. Падумаць трэба, сынку. Глуздом паварушыць.

П а т а п. Падумай, дзядзька, падумай, ды толькі не кажы, што гэта я пытаў, бо за такія размовы мяне ўжо з шахты патурылі.

А с л а ў *(да дзеда Мікіты)*. Запытаў, злодзей! Моцна запытаў!

З глыбі сяла даносіцца дзіліньканне званка. Дзед Мікіта паварочвае галаву, слухае.

Д з е д М і к і т а *(у голасе непакой)*. А што гэта, чуй, дурань-браце, за званок там? З воласці едуць, ці што?

А с л а ў. А мабыць, ужо нейкае ліха вязуць, няхай яны зубамі звоняць. *(Разважае.)* Гм! Навошта поп і паліцэйскі стражнік? Як на добры лад, то яны і не патрэбны.

На вуліцы рух. Замітусіліся людзі. З іх чарады аддзяляецца ўнук дзеда Мікіты, Г а р а с ь к а, бяжыць узбуджаны, устрывожаны.

Г а р а с ь к а *(задыхаўшыся)*. Прыехаў нейкі пан, ды на пары коней, пад званком... Старасты шукае. «Дзе, кажа, стараста? Дзе стараста?.. Знайсці яго хутчэй». *(Зноў бяжыць назад.)*

Д з е д М і к і т а. Хіба пайсці, чуй, дурань-браце, паглядзець. *(Зачыняе акно, выходзіць на вуліцу.)*

А с л а ў *(у позе глыбока задуманага чалавека)*. «Навошта поп і паліцэйскі стражнік»? Вось, бэстыя шахцёр, куды загнуў.

Рух на вуліцы павялічваецца. Паказваюцца адзінокія фігуры. Дзесь за сцэнаю крык: «Бяжы на поле, гані на сход людзей!»

Д з е д  М і к і т а *(затрывожаны)*. Навошта сход? Чуй, дурань-браце, хадзем туды.

А с л а ў. Гэ, Мікіта! Калі што добрае, таго мы не пабачым, не пачуем і не панюхаем. А ліха знойдзе нас само.

Шум за сцэнаю павялічваецца. Выразна чуваць крык: «Сымон! Дзесяцкі Сымон Бадыль! Бяжы на званіцу, звані ў пажарны звон!»

Д з е д  М і к і т а  і  А с л а ў. Пажарны звон!.. Вось ліха. *(Паварочваюцца адзін да аднаго спінамі, пазіраюць кожны на свой будынак, потым на сяло.)*

Д з е д  М і к і т а. Нічога не відаць.

А с л а ў. Ні дыму, ні агню.

Д з е д  М і к і т а. Чуй, дурань-браце, тут штось не так. Склікаць народ пажарным звонам?

А с л а ў *(ускідае плячамі)*. Няйначай, як трэба нам пайсці туды бліжэй.

Збіраюцца ісці, але іх увагу затрымлівае к а б е т а ў лахманах, з клункам за плячамі, з доўгім кіем у руках.

Д з е д  М і к і т а. А хто гэта там, чуй, дурань-браце, ідзе?

К а р а л і н а *(пяе)*: «Калі-ж ты памрэш, дзядочак ты мой? Калі-ж памрэш, галубочак ты мой?» *(Да Аслава і Мікіты.)* Дзень добры вам, мужчынкі! Смерць вам нізка кланяецца. Даўно, кажа, чакаю іх у госці.

Д з е д  М і к і т а. Ідзі, ідзі, чуй, дурань-браце. Ідзі, куды ідзеш.

К а р а л і н а. Які-ж ты фанабэрысты. А-я-яй.

М і к і т а. Ды адчапіся ты, Караліна.

Караліна праходзіць далей. Чуваць звон глухі, надтрэснуты. Голас яго дужа нагадвае словы: «Гвалт, гвалт!»

Д з е д  М і к і т а *(перапалоханы)*. О божа, твая воля! Што-ж гэта ёсць такога? У звон пажарны зазванілі. Даўно яго не чулі мае вушы.

А с л а ў. А ведаеш, Мікіта, напэўна лес княжацкі гарыць.

Д з е д  М і к і т а. О, даў-бы гэта бог, каб толькі таго ліха. Абы не нас яно кранула, чуй, дурань-браце.

Шум, трывога нарастаюць. Збягаецца народ, устрывожаны, ніхто нічога не ведае. Зноў, як мага, бяжыць Г а р а с ь к а.

Г а р а с ь к а. Дзядок, сам земскі пад званком прыехаў!

Д з е д  М і к і т а. Вось ліха!

За сцэнаю голас старасты: «На сход, на сход! Усіх гані на сход. Збірацца каля хаты дзеда Мікіты». Каля хаты дзеда Мікіты збіраецца натоўп: мужчыны, жанкі, дзеці. Усе перапалоханы, растрывожаны. З натоўпу відаць папова галава ў капелюшы. Праз натоўп праціскаецца с т а р а с т а, за ім земскі начальнік Б у д а н-Р ы л ь с к і, паліцэйскі ўраднік Ш ы ш л а і д з е с я ц к і я з кіямі. Будан-Рыльскі ўзлазіць на калодку. Народ замаўкае. Паказваецца К а р а л і н а.

К а р а л і н а. Ха-ха-ха! Кажуць-бо, пажар. А тут няма ніякага пажару. Пакідалі на полі работу і выдумалі нейкае вяселле спраўляць... Вось дурныя, а бадай...

Ш ы ш л а. Замаўчы, брыда. *(Б'е яе нагайкаю.)*

Караліна, дзіка азіраючыся, хаваецца.

Б у д а н-Р ы л ь с к і *(выраз твару важны. Акідае поглядам народ. Колькі моманту захоўвае маўчанне.)* Слухайце! *(Вымае паперу, чытае адрывіста, націскаючы на кожнае слова.)* Высочайшее повеление о мобилизации.

Ш ы ш л а *(крычыць ва ўсё горла)*. Шапкі далоў! Імператарскі ўказ, да, собственна, да!

Мужчыны знімаюць шапкі.

Б у д а н-Р ы л ь с к і *(чытае)*. Государь император повелеть соизволил привести армию и флот на военное положение. Первым днем мобилизации назначено 12 часов ночи на 17 июля. Во исполнение высочайшего повеления о приведении армии и флота на военное положение:

Нижним чинам запаса с увольнительными билетами, а неимеющим таковых с видом на жительство явиться на сборный пункт уездного воинского начальника в г. Минске на другой день мобилизации в 6 часов утра.

Б а б к а  Т а ц я н а. А што-ж гэта ён, мае любачкі, вычытвае? Якая-ж гэта аблізацыя?

Г о л а с  ж а н ч ы н ы. А ліха яе ведае. Век жылі, не чулі.

Б у д а н-Р ы л ь с к і. Мабілізацыя азначае вайну. Не ўпершыню нашай праваслаўнай арміі крышыць ворагаў.

Мы скрышым іх і цяпер. Запасныя салдаты! Будзьце героямі, і цар-бацька вас не забудзе. Была ўжо раз наша праваслаўная руская армія ў Берліне, яна будзе там ізноў. Дык з богам за святую Русь! Я сам іду на вайну і буду біцца разам з вамі...

А л е с ь *(ціха, з глыбіні натоўпу)*. Не пераскочыўшы, не кажы гоп!

Б у д а н-Р ы л ь с к і *(у абурэнні)*. Хто сказаў гэта?

Шышла падышоў да Алеся. Патап хоча выгарадзіць яго.

П а т а п. Я сказаў.

Б у д а н-Р ы л ь с к і. Ты сказаў?

Ш ы ш л а. Ён брэша, гаспадзін земскі начальнік. Гэта адсюль хтосьці сказаў.

Б у д а н-Р ы л ь с к і. Ураднік! Выясніць гэта і далажыць мне! *(Аглядаючы натоўп.)* Мы яшчэ пагаворым з вамі.

У натоўпе гул нездаволення. Шышла накідаецца на Патапа, замахваецца біць яго.

П а т а п *(ціха, таксама з пагрозай)*. Пагаворым на вайне.

Б у д а н-Р ы л ь с к і *(не заўважае, да старасты)*. Вось якія ягадкі тут водзяцца. А ты, стараста, калі не ў часе і не ўсе збяруцца запасныя, будзеш, як гаворыцца, несці адказ па законах ваеннага часу.

Ш ы ш л а. Да, собственна, да. Палажэнне не церпіць.

Б у д а н-Р ы л ь с к і выходзіць.

Ш ы ш л а *(абыходзіць моўчкі ўсіх)*. Сітуацыя! Да, собственна, да. *(Падыходзіць да старасты.)* Стараста, вазьмі на заметку гэтага грубіяна. *(Падыходзіць да Патапа.)* Ну, шчасце тваё, што вайна.

Шышла выціскаецца з натоўпу. Праходзячы міма настаўніцы, галантна ёй кланяецца. Некаторы момант магільная цішыня. Народ, прыдушаны грознаю весткаю, яшчэ не разабраўшыся ў ёй, пераглядаецца. Месца Будана-Рыльскага займае стараста.

С т а р а с т а. Вы чулі, грамада: усенародна абвешчана збірацца на вайну. Вы чулі, што казаў мне земскі і

чым ён пагражаў? Дык вось, браткі запасныя, збірайцеся барджэй, бо сёння-ж усе мусіце быць у воласці.

П а т а п. Вайна... Ну што-ж, ваяваць, дык ваяваць, але каб ад гэтай вайны не было часам горача ці холадна каму.

Г о л а с з н а т о ў п у. А з кім вайна?

Д р у г і г о л а с. Завошта?

Т р э ц і г о л а с. З якім там чортам ваяваць?

С т а р а с т а *(па-начальніцку)*. Не наша дзела разважаць, з кім ды за што, бо гэта разважанне можа скончыцца вельмі дрэнна.

Н а с т а *(занепакоеная, падбягае да Міхася)*. Міхаська, міленькі! І цябе пагоняць на вайну.

М і х а с ь. А што-ж, у зубы паглядзяць мне? Не вышлі яшчэ мае гады, далёка да сарака.

Б а б к а Т а ц я н а *(галосіць)*. А мой-жа ты, сыночак! А мой-жа ты, саколік. На каго-ж ты нас пакідаеш?

Д з е д М і к і т а. Ціха ты, чуй, дурань-браце! Разгаласілася! Памогуць тут твае прычытанні, як кашаль хваробе.

Б у х р а й. А земскі начальнік праўду казаў, хлопцы. Трэба ваяваць. Трэба бараніць нашу зямлю, раз на яе замахі робяць ворагі.

Г у з ы р. О, белабілетнікі — ваякі! А чым я здаравейшы за цябе?

П а т а п. Ды яму і бараніць ёсць што. Гаспадарка — дзякаваць богу.

Б у х р а й. А ты чаму не прыдбаў гаспадаркі? Хлеба лёгкага шукаеш. Па свеце валочышся, забастоўшчык.

Г а л а с ы ж а н ч ы н. А божа-ж мой, божа. Ды куды-ж вас гоняць? Ды куды-ж вас забіраюць?

С т а р а с т а. Сціхніце! Ціха! Бацюшка сказаць штось мае.

П о п. Брацце і сёстры! Вялік гасподзь у гневе справядлівым, і міласці яго несць меры і канца... Не зведаны гасподнія пуціны, і не відна нам яго караючая дзясніца. Будзьце-ж цвёрдыя, спадзявайцеся на міласць божую, памятаючы, што і ў кары сваёй — вайна-ж ёсць біч той кары — яўляе нам гасподзь сваю міласць, бо не да канца прагневаўся на нас і не адхіліў яшчэ ад нас ён свайго твару. Хто меч падняў, і згіне ад мяча. Нямец-

кае войска збіраецца на нашай граніцы, і ў кожны міг агонь вайны гатоў закінуцца і ў нашу дзяржаву. Высока-ж узніміце караючую дзясніцу. З малітваю, з надзеяю святою ідзіце вы на суд гасподзень, бо хто вялік, як ён, наш бог? Памолімся, брацце. *(Падымае вочы на неба.)* Ты ёсць наш бог і творыш ты дзівосы. Яві ты міласць абранаму табою памазаніку твайму. *(Глядзіць на Алеся і Патапа.)* Маланкаю і громам паразі яго адступнікаў і супастатаў. Прыхілі вуха да праваслаўнага твайго народу... Разумейце ўсе языцы і пакарайцеся, яко з намі бог.

Жанкі *(плачуць)*. Ох, божа наш, божа.

Стараста. Ціха!

Патап. Пацягаў-бы салдацкую лямку ды падставіў-бы сваю валасатую галаву пад кулі — не тое заспяваў-бы.

Аслаў *(вымае з зубоў люльку, да папа)*. А-а, якжа, ббацюшка, вось гэта пагадзіць: любіце ворагаў сваіх, благаслаўляйце тых, хто вас ненавідзіць, адплачвайце дабром за зробленае зло?

Поп. Аслаў, Аслаў! Ты мала ў царкву ходзіш, злы дух, спакуснік, заблытаў табе розум... Сказаў гасподзь: «Несць болей той любві, ашчэ хто жывот паложыць за другі своя».

Аслаў. Бацюшка! Ты вось яшчэ што скажы: навошта... *(заўважае погляд Патапа, стрымліваецца)* паліцэйскі стражнік?

Стараста. Хлопцы, хлопчыкі! Не зводзіць часу — збірайцеся хутчэй. *(Да папа.)* Малебен, бацюшка, адслужыць.

Голас. Трэба памаліцца за наша войска і за цара.

Бухрай *(крычыць)*. Малебен, бацюшка, адслужыць за цара, за хрысталюбівае воінства!

Народ разыходзіцца. Большая частка ідзе ў царкву. Чуюцца галасы: «Ось і дачакаліся ліха». «Эх-хе, прышла пагібель на народ». «Андрэй! Дзямян! Збірайцеся, разам пойдзем». Застаюцца Марына, Алесь і Патап.

Алесь *(пасля паузы, журботна)*. Вось як яно выходзіць, Патап.

Марына апускае галаву, перабірае пальцамі брыжы шарфіка, маўчыць у засмучэнні.

Патап. А як уз'еўся наш ваяка-земскі!

Марына (*падымае вочы на Алеся*). Ахвота была вам чапаць гэтага салдафона... Ну і задзіра вы.

Патап (*з горкім жартам*). Ідучы на вайну, трэба-ж набірацца ваяцкасці... Сволач! (*Пайшоў.*)

Марына. (*Пауза.*) І ты зараз пойдзеш! Прыдзе вечар і цябе ўжо тут не будзе... І не думала ніколі, што нам так хутка прыдзецца разлучыцца.

Алесь. Разлучыцца надоўга і можа быць... назаўсёды.

Марына. Кінь, Алесь, гэтыя думкі, не гавары гэтага. Можа, ты і зусім не пойдзеш на вайну... Ды ты-ж і ў войску не служыў. Няўжо-ж цябе, неабучанага, пашлюць на вайну.

Алесь. Навукі вялікай тут і не трэба: памуштруюць месяц — і салдат.

Здалёку даносіцца з царквы спеў: «Спасі, госпадзі».

Марына (*з болем*). Якая недарэчнасць, якая дзіч — вайна. Людзі, культурныя людзі дваццатага стагоддзя не могуць знайсці іншага спосабу, апроч вайны, каб разысціся мірна.

Алесь. Калі-б на вайну, пад першыя кулі ішлі тыя, хто вайну ўзнімае і гоніць народ на смерць і знішчэнне, дык, можа, вайны і не было-б... (*Здалёку ізноў громка даносіцца: «Спасі, госпадзі...»*) Эх, вайна, вайна, Марынка... Хто вернецца з яе, калі вернецца, то як. (*Глядзіць у той бок, дзе спяваюць.*)

Марына (*хапае Алеся за руку*). Не гавары ты гэтак. Толькі вярніся. Вярніся, Алесь, мілы мой.

Алесь (*паволі, як-бы выпрабоўваючы Марыну*). А калі вярнуся я... калекам... без рук або без ног?

Марына (*узрушана*). Не гавары так... не гавары... Я не хачу.

Голас старасты. Збірайся, выходзь.

Алесь. Клічуць... Рвуцца апошнія звенні... Марынка, будзеш мяне помніць?

Марына (*горача*). Кожны час, кожны момант. (*Кладзе галаву на плячо Алесю.*)

Голас. Не зводзьце часу!..

А л е с ь. Ну, Марыначка, любая мая, бывай. (*Падае руку, цалуе яе.*)

М а р ы н а. Алеська... шануйся. Але ты вернешся. Ты вернешся. Я так хачу!.. Бывай-жа шчаслівенькі, здаровы. Пішы-ж мне, пішы чым найчасцей. (*Бяжыць і знікае.*)

А л е с ь (*засмучаны праводзіць вачамі*). Так блізка яна і так далёка!.. Бяздонніца кладзецца паміж намі... А хто кладзе і для чаго? (*Апускае галаву, стаіць момант задумаўшыся.*) Пяройдзена нейкая мяжа... Як гэта дзіўна. (*Ідзе ў хату дзеда Мікіты.*)

Некаторы час сцэна пустая. Здалёку чуваць гармонік.

Ж а н ч ы н а. А куды-ж цябе гоняць?

Х л о п е ц. Куды, куды? Вайну нейкую выдумалі!

Ж а н ч ы н а. А на каго-ж ты мяне пакідаеш?

Х л о п е ц. Ты глядзі, Алёна, сына сцеражы, зямлю даглядай.

Ж а н ч ы н а. Без цябе страшна.

Г у з ы р. Міхась! Міхась. (*У акне паказваецца Міхась.*) Сабраўся ты? Пойдзем разам.

Д р о б (*з гармонікам*). Рушым, брат, у кампаніі: людзі пайшлі ўжо.

М і х а с ь. Зараз, брат. Пачакайце трошкі. Чорт яе не забярэ, вайну, а без нас не абыдзецца. А то зайшлі-б у хату.

Г у з ы р. Мы тут пачакаем.

Д р о б. Давай закурым. Спяшацца вельмі няма куды. Чорт іх там не пабярэ.

Дастаюць кісеты, закурваюць.

Г у з ы р. Праваліся ты, гэтакае ліха.

Д р о б. Агні-б яе спалілі, гэтую вайну... Раптам, як з грому, у самы рабочы час...

Выходзіць М і х а с ь з клункам, за ім Н а с т а, дзед М і к і т а.
Выбягае бабка Т а ц я н а.

Б а б к а Т а ц я н а. Дык што-ж гэта мы, як-бы пасварыўшыся. (*Да дзеда Мікіты.*) Бацька! Трэба-ж было-б

най лініі, якую павінны заняць афіцэры, каб павесці, што называецца, за сабою армію.

Будан-Рыльскі. Дык так, гаспада. Становішча, як гаворыцца, ахаўскае, але не безнадзейнае. Бліжэй да салдата, гаварыце з ім, раз'ясняйце сэнс перавароту. Валі на старую ўладу ўсе нашы няўдачы. Курс браць на партыю соцыялістаў-рэвалюцыянераў. Яна ўсіх пагодзіць. Яна за вайну і за дысцыпліну ў войску. Выведваць настрой салдатаў. Аб загадзе-ж № 1 ні слова! Дык з богам, гаспада!

Святло ў зямлянцы выключаецца. Дзяменя адрываецца ад зямлянкі, бяжыць, потым запыняецца.

Дзяменя. Ох, ох, Дзяменя! Мілы ты мой Дзяменя! Повен ты цяпер, як ніколі: ну, як той клешч, што насмактаўся крыві з сабачага вуха! Ах, афіцэрыкі!.. Бягу, бягу. *(Кідаецца бегчы.)*

Уваходзіць Марына.

Дзяменя *(запыняецца)*. Сястрыца, шкадую, што вы не мужчына.

Марына *(здзіўлена)*. А што, Дзяменька?

Дзяменя. Пацалаваў бы вас. Такія навіны!

Марына *(смяецца)*. А хіба-ж мужчыну прыемней цалаваць?

Дзяменя. Яно то... не, але-ж адвага тут патрэбна.

Марына. Дык рэволюцыя?

Дзяменя. Самая сапраўдная... Дарэчы, сястрыца: ці не бачылі загаду № 1?

Марына. Я яго маю.

Дзяменя. Ды ну? Дайце мне яго!

Марына *(дастае лісток, аддае Дзяменю)*. Вось ён. Парадуйце салдатаў.

Дзяменя *(прасоўвае руку ў ватоўку, вымае пакет, аддае Марыне)*. Дар за дар... Гэта тое, што зрабіла вас сястрою, а прафесара прымусіла ў нябожчыкі запісацца, мяне-ж злодзеем зрабіла — у штабной канцыляры ўкраў. Цяпер за гэтыя дакументы з вас абоіх нагарода належыць.

Марына. Мілы Дзяменька! Ну, які-ж вы дасціпны!

*(Бярэ пакет, вымае паперы.)* Яны аплаканы горкімі слязьмі. Я буду хаваць іх, як кайданы і як святыню.

Дзяменя *(з гордасцю)*. Да ўжо-ж калі Дзяменя за што возьмецца, дык ну!.. Пабягу-ж я, сястрыца: не церпіцца мне.

## *Карціна трэцяя*

Адрэзак акопаў дзевятай роты. Два канцы іх расходзяцца ў бакі і губляюцца ўводдалі. Шырокі ўваход у акоп. У акопе відна група салдатаў. Сярод іх Дроб, Думака, Гузыр пяюць песню:

Старана чужая не родная маці,
А касцей салдацкіх нагацілі гаці.
Эх, ваюй, ваюй, салдат!
Выступай за радам рад!
За гарой, за лесам ліха, смерць блукае,
А крумкач у госці крумкачоў склікае.
Эх, ваюй, ваюй, салдат!
Па зямлі паўзі, як гад!
У сырых акопах гіне люд рабочы,
А там дома жонка праплакала вочы.
Эх, ваюй, ваюй, салдат!
За цара, за царанят!
Над зямлёю цяжка злегла ноч сляпая,
А ў каго матуля пра сынка спытае.
Эх, ваюй, салдат, ваюй!
Смокча кроў тваю буржуй!
Рассяваеш косці ты, салдат, па свеце,
А там з галадоўлі пухнуць жонка, дзеці.
Эх, ваюй не так, салдат!
Павярні ты штык назад!

Па сцэне паўзе Дзяменя, каля самага ўваходу ў акоп падае каманду.

Дзяменя. Устаць і сустрэць Дзяменю!

Салдаты мітусяцца, высыпаюць з акопа, акружаюць Дзяменю.

Патап. Што шуміш, іскравáя рота?
Дзяменя. Браты мае, рэволюцыя!
Галасы. Ці не брэшаш? Факты давай!
Дзяменя. Царызма пала! Міністраў арыштавалі! Новы ўрад. Совет рабочых і салдацкіх дэпутатаў! *(Трасе загадам № 1.)* Вось ён, факт! Вось дакумент, што хаваюць

ад нас афіцэры! Прафесар! Нябожчык-прафесар! Выпісвайся са спіскаў забітых! Ажыві! На, чытай нам уголас.

Падбягае Алесь, бярэ загад № 1, момант глядзіць у яго, потым кідаецца на шыю Дзяменю, цалуе яго.

Алесь. Факт, таварышы, рэвалюцыя прышла!

Дзяменя. Чытай, чытай нам маніхвест, ды чытані так, каб аж за граніцаю пачулі.

Алесь *(чытае)*. «Совет рабочих и солдатских депутатов постановил:

1. Во всех ротах, батальонах, полках, батареях, эскадронах и на судах военного флота немедленно выбрать комитеты из выборных представителей от нижних чинов вышеуказанных воинских частей».

Патап. Братцы вы мае! Пішы — сваё начальства будзе.

Алесь. «2. Во всех воинских частях избрать в Совет рабочих и солдатских депутатов по одному представителю от рот, которым явиться с письменным удостоверением в здание Государственной думы к 10 ч. утра 2 сего марта».

Гузыр. А, душа з іх вон! Палавіна сакавіка, а мы нічога не ведаем.

Галасы. Сволачы! Скруціць думалі!

Алесь. Увага, таварышы! *(Чытае.)* «3. Во всех своих политических выступлениях воинская часть подчиняется Совету рабочих и солдатских депутатов и своим комитетам».

Галасы. Малайцы! Добра запісана.

Алесь *(чытае)*. «В строю и при отправлении служебных обязанностей солдаты должны соблюдать строжайшую военную дисциплину, но в частной жизни солдаты ни в чем не могут быть умалены в тех правах, коими пользуются все граждане. В частности, вставание во фронт и обязательное отдавание чести вне службы — отменяется».

Патап. Для генералаў гэта — пішы, як стрэмка ў вока.

Алесь *(чытае)*. «Равным образом отменяется титулование офицеров: — ваше превосходительство, благоро-

дие и т. п. и заменяется обращением: г. генерал, г. полковник и т. д.».

Дзяменя. Ды я яго проста буду звацъ: «Эй ты, генерал! Сюды ідзі».

Салдаты смяюцца.

Алесь (*чытае*). «Грубое обращение с солдатами и в частности обращение к ним на «ты» воспрещается!» Падпісана: «Петроградский Совет рабочих и солдатских депутатов». (*Скончыўшы чытаць, аглядае салдатаў.*) Чулі, таварышы? Вось ён (*трасе загадам*) наш салдацкі дакумент. Касуецца шэрая скацінка. Салдат стаў чалавекам, грамадзянінам. Ён вызвален ад афіцэрскага прыгону. Няхай жыве рэвалюцыя!

Салдаты. Ура!

Дроб выносіць гармонік, іграе заліхвацкі матыў. Салдаты танцуюць, гікаюць, выгукваюць: «Свабода!», «Рэвалюцыя!», «Наша бярэ!», «Ура рабочым і салдатам!».

Дзяменя. Увага! Слухайце мяне (*шум змаўкае*). Тэлефонаграму даць немцам!

Галасы. Правільна!

Дзяменя шукае, што надзець на штык, нарэшце дагадваецца зняць бот, разгортвае парцянку, надзяе на штык. Вылазіць за бруствер акопа.

Дзяменя. Германішэн! Браткі немцы! Салдаты! Сказаў-бы ім па-нямецку, ды язык грэцкі. Гэр-мэр! У нас рэвалюцыя. (*Раздзельна.*) Рэ-во-лю-цыя! Годзе ваяваць! Далоў вайну!

З нямецкіх акопаў чуваць галасы: «Рус! Рус! Гох! Рус». Уваходзіць Будан-Рыльскі. Яго не бачаць. Ён стаіць моўчкі, ледзь стрымліваецца.

Патап. Далоў гандлярскую вайну.

Дзяменя. Годзе ваяваць, далоў вайну!

Будан-Рыльскі. Так!

Усе салдаты павярнуліся. Цяжкая пауза. Будан-Рыльскі злосна выбягае.

Дзяменя (*услед Будан-Рыльскаму*). Цешыўся старац, што паражыў марац, ажно ў маю нясуць яго да гаю.

## *Карціна чацвёртая*

Той-жа самы ўчастак фронта. Бліжэйшы франтавы тыл. Салдацкі мітынг. На мітынгу абмяркоўваюцца пытанні міру і вайны.

П а т а п. Ужо другі месяц, як пачалася рэвалюцыя, мы-ж усё яшчэ гніем у акопах. За гэты час пабывала тут шмат народу, розных прадстаўнікоў ад розных партый. Што-ж яны гавораць нам? Яны кажуць: «Ваюйце, вольныя салдаты! Абараняйце свабоду, нашы героі!» Усе яны дудзяць па адной дудцы: і меншавікі і эсэры. Словам, таварышы, канца вайне не відаць. А як мы, салдаты, ставімся да вайны? У нас — так і пішы — адно жаданне: скончыць яе як найхутчэй.

Г а л а с ы. Верна! Праўда!

П а т а п. Хто-ж нас у гэтым падтрымлівае? Хто выказвае нашы набалелыя жаданні, нашы мыслі, нашы пачуцці? Толькі адна партыя — гэта партыя большэвікоў. Большэвікі кажуць нам: «Салдаты! вы самі бярыцеся канчаць вайну. Братайцеся з вашымі праціўнікамі — яны такія-ж, як і мы, рабочыя, сяляне. Дабівайцеся, каб уся ўлада перайшла Советам». Ці правільна гавораць большэвікі?

Г а л а с ы. Правільна!

П а т а п. Дык давайце, таварышы, самі канчаць вайну. Давайце правядзем братанне арганізавана, цэлымі часцямі. Гэтым наблізім мір і канец вайны. *(Дастае жмут газет.)* Вот вам, таварышы, наша салдацкая газета «Окопная правда». Яе пішуць людзі, што стаяць за мір, за нашага брата салдата, за народ, за сапраўдную свабоду.

Салдаты нарасхват бяруць газеты.

Г а л а с ы. Пачытаем сваю «Акопную праўду»! Даволі кармілі нас буржуі сваімі газетамі.

Г о л а с *(дзесь з глыбі натоўпу)*. Але ці няма тут, таварышы, ашуканства? Іхняга правадыра, Леніна, немцы падкінулі ў Расію.

А л е с ь. Хлусня, таварышы, кадэцкі паклёп, каб аганьбіць партыю большэвікоў.

П а т а п. Хто гаварыў, што Леніна немцы падкінулі?

Выступі тут перад народам, мы паслухаем і пабачым, што ты за чалавек. Мы ўсім даем слова. Гавары, што хочаш. Дык выходзь на народ!

Ніхто не выходзіць.

Г а л а с ы. Гэта буржуйчык прытаіўся тут.

А л е с ь. Хто яшчэ хоча гаварыць?

Г а л а с ы. Ды яно-ж ясна. Мы за большэвікоў.

Д р у г і  г о л а с. Самі будзем канчаць вайну.

А л е с ь. Дык, значыцца, таварышы, правядзем шырокае братанне. І другія роты і палкі будзем заклікаць да гэтага. Бо толькі такім чынам і можна дабіцца канца вайны. Дык згодны, таварышы?

Г а л а с ы. Згодны.

А л е с ь. Прагаласуем. Хто за гэта, падыміце рукі. *(Салдаты дружна падымаюць рукі. Алесь радасна пераглядаецца з Патапам.)* Мітынг скончан. Будзьце, таварышы, смелыя, рашучыя, упартыя, і мы свайго даб'емся.

1 - ы  с а л д а т. Ну, хлопцы, цяпер трымайся. Наш лёс у нашых руках.

2 - г і  с а л д а т. Чачавічку сёрбаць зараз не будзем, чорта з два.

3 - ц і  с а л д а т. Уся ўлада Советам. Вось калі на нашай вуліцы будзе свята!

4 - ы  с а л д а т. Да бабы свае вярнуся. Свае-ж пусцяць.

1-ы  с а л д а т. Браткі мае, дамоў прыду, а гэтую качаргу к чортавай матары.

П а т а п. Ну, гэту качаргу пры сабе прыхавай. Спатрэбіцца...

Г о л а с. Я капітану за свае зубы рахунак падам.

1 - ы  с а л д а т. Ну, прафесар, дахаты разам паедзем за кампанію.

Салдаты разыходзяцца з песняю. Алесь застаецца на сцэне. Песня салдатаў аддаляецца.

А л е с ь. Якая незвычайная для фронту цішыня! Фронт замірае. Шчаслівы будзе той час, калі ён замрэ тут назаўсёды. *(Піша ў сваю кніжку.)*

Здалёку паказваецца М а р ы н а. Запыняецца, асцярожна разглядаючыся. Бачыць Алеся. Борздзенька падыходзіць да яго. Момант стаіць моўчкі.

Марына. Так захапіўся, што і не бачыць нічога.

Алесь. Марынка! Здарова Марынка-Ірынка! Прышла? Не забыла?

Марына. Я ніколі не забываю цябе, але зараз я на хвілінку. Алесь, слухай: тое, што вы робіце і збіраецеся рабіць тут, вядома там. Праўда, што вы ладзіце масавае братанне?

Алесь. Цяпер гэта звычайная з'ява. Яе не схаваеш. І хаваць не збіраемся.

Марына. Вы мяркуеце тут па-свойму, а там употайку гатуюць вам пастку.

Алесь. Пастку? Якую пастку?

Марына. План іх пякельны. «Мы, — кажа гэты Будан-Рыльскі, — падстроім так, што іхняе братанне самі немцы расстрэльваць будуць». Сцеражыцеся! Вы можаце загубіць тысячу людзей, вас змяшаюць з прахам: артылерыя папярэджана і падгатавана, яна на іх баку.

Алесь. Будан-Рыльскі! Удалае імя! Будан-Бруднае Рыла!

Марына. Ты ўсё жартуеш, Алесь, а ў мяне сэрца не на месцы, калі падумаю, што загінуць тысячы народу.

Алесь. Дзякую за дапамогу. Значыць, ты цяпер зразумела, што праўда на нашым баку? Значыць, ты пойдзеш за мной?

Марына. Усюды з табою. Я веру цяпер толькі табе і Патапу. Жыццё на фронце раскрыла мне вочы. Я ўвесь час ахоўвала вас і дапамагала вашай справе. Ведаеш, мне часамі здаецца, што яны здагадваюцца аб маёй ролі. Але не гэта мне страшна... (*Абрывае гутарку. Пауза. Другім тонам.*) Ну, бывай-жа! А калі даведаюся пра што, паведамлю. (*Выходзіць.*)

Алесь (*глядзіць ёй услед.*) Пайшла і нібы большую частку мяне забрала з сабою. А хацелася-ж казаць яшчэ так многа і так сардэчна! (*Сядзіць моўчкі, схіліўшы галаву.*) Даведаліся... Ставяць пастку... Як-жа быць?

Уваходзяць Максім Кучаравы і Патап.

Алесь. А, таварыш Максім, добра, што ты прышоў. Хадзіце, браткі, сюды.

Патап. Ты што, прафесар, стаіўся тут?

Алесь. Справа, браткі, такая, што аднае прафесарскае галавы мала.

Патап. Ну?

Алесь. Будан-Рыльскі пранюхаў пра братанне!

Патап. Ну, дык што? На гэта і нюхаўкі спецыяльнай не трэба.

Алесь. Справа ў тым, што ён рыхтуе нам пастку. Артылерыю паставілі расстрэльваць братальнікаў.

Патап. Гэта факт?

Кучаравы. Я гэтага і баяўся — у артылерыі шмат афіцэраў і вольнапёраў.

Патап. А ты адкуль даведаўся?

Алесь. Марына сказала.

Кучаравы. Марыне верыць можна. Я наглядаў за ёю. Яна — наша.

Патап. Ну, што-ж. Адступаць нельга, прафесар.

Алесь. Нельга, гэта ясна. Але калі мы правалім братанне, дык мы дыскрэдытуем і самую ідэю яго.

Кучаравы. Трэба павесці справу так, каб правалу не было. Слухайце.

## *Карціна пятая*

Афіцэрская зямлянка. У зямлянцы Будан-Рыльскі і тры ротныя камандзіры.

Будан-Рыльскі. Чаму большэвізм залівае тыл і так востра паражае сваёй гангрэнай фронт? А таму, што большэвікі кажуць салдату: гані сваіх афіцэраў — яны твае класавыя ворагі і стаяць за вайну. Адбірай зямлю ад памешчыкаў і фабрыкі ад фабрыкантаў, і ты станеш багатым.

Жухін. Гэтага мала, г. капітан: большэвікі давялі салдату і пераканалі яго ў тым, што вайна для яго не мае сэнсу, як грабежніцкая вайна ў інтарэсах багатых класаў... Яны прапаведваюць іншую вайну...

Убягае афіцэр.

Афіцэр (*узрушана*). Гаспадзін капітан! Другі і трэці батальёны і дзве роты першага выступаюць з акопаў

пад белым сцягам — братацца. Выступленне пачынае дзевятая рота.

Будан-Рыльскі. Дзякую, паручык. (*Да афіцэраў.*) Сачыць за рухам здраднікаў. Аб кожным руху дакладваць мне.

Афіцэры выбягаюць з зямлянкі, глядзяць у біноклі. Будан-Рыльскі кідаецца да тэлефона.

Будан-Рыльскі. Ало, батарэя? Капітан Сумяцін? Здрастуйце. Капітан Будан-Рыльскі. Будзьце гатовы. Сектар — 3, квадраты № 13 уключна па № 24 выключна... Вельмі рад. Так, так. Дзякую.

Афіцэр. Гаспадзін капітан. Дзевятая рота выходзіць з белым сцягам. З'яўляюцца адзіночныя людзі на ўчастках 10 і 11... Натоўп павялічваецца. Рады гусцеюць. Стаяць на месцы... Паказваюцца немцы. Накапляюцца. Фронт шырыцца... Гаспадзін капітан, пара!

Будан-Рыльскі (*хапае трубку тэлефона*). Ало, ало! Капітан Сумяцін? Адкрывайце агонь! Сектар — 3, квадраты — 13—24. (*Вешае трубку.*)

Афіцэр. Гаспадзін капітан... Самы час... Тысячы!..

Будан-Рыльскі (*нервова*). Што-ж яны не страляюць? (*Бярэцца за трубку тэлефона, грыміць гарматны стрэл. Адыходзіць ад тэлефона, радасна хрысціцца.*) Дзякуй богу... Назірайце, гаспада, узрывы.

Мёртвая цішыня. Афіцэры стаяць, пазіраюць у біноклі. Званок тэлефона. Будан-Рыльскі знімае трубку.

Будан-Рыльскі. Ало, я, я... Што? У процілеглы бок?.. Сволачы! (*Шпурляе трубку, у ярасці б'е кулаком па тэлефону. Да афіцэраў.*) Павярнулі хобаты гармат у процілеглы бок. Стрэлілі адзін раз... у штаб свае дывізіі. Братаюцца таксама артылерысты з пехацінцамі. Мярзаўцы! Негадзяі!

Афіцэр. Якая мерзасць! Якая ганьба!

Другі афіцэр выхватвае рэвальвер, каб страляць у салдатаў. Яго ўтрымліваюць.

Жухін (*безнадзейна*). Лішнія мы тут і непатрэбныя.

## *Карціна шостая*

Бліжэйшы франтавы тыл. Прасторны пусты двор, запоўнены салдатамі. На пярэднім плане Дроб і Гузыр. Салдаты соваюцца па двары, выходзяць і прыходзяць. Сям-там сядзяць па некалькі чалавек. Ціха, хтосьці сумна спявае.

Д р о б (*сядзіць на бервяне, курыць цыгарку*). Правініліся, значыцца, перад буржуямі. Як заразную роту вывелі з акопаў (*смяецца*). Ну-ж і злосці было ў Будана-Рыльскага. Ось, думаў, гакну, аж нічога не вышла.

Г у з ы р. Адлучылі, каб лягчэй справіцца. За дысцыпліну бяруцца. Керэнскі, чуеш, на фронт едзе. Строгасць. Зноў у наступленне гнаць будуць.

Д р о б. Няхай Керэнскі сам і наступае. Які дурань будзе наступаць яму? Самому на мазоль наступаюць, вось і круціцца.

Г у з ы р. Глядзі, каб і нас не ўкруціў.

Д р о б. Няхай ён лепш сам сабе галаву скруціць. (*Вымае з ватоўкі нейкую рэч, загорнутую ў газету.*)

Г у з ы р. Судзяць-жа нас, Паўлюк, чуў? За братанне.

Д р о б. А няхай судзяць. Прысудзяць у Сібір? Дык чым горш Сібір за вайну? (*Мяняе гутарку.*) Спрытныя, падлы, гэтыя немцы. Якія добрыя штучкі вырабляюць. Вось ты зірні, Андрэй, якую хвацкую брытву падараваў мне на памяць нямецкі салдат!

Г у з ы р (*разглядае брытву*). Хвацкая брытва, ядры яе качан.

Г о л а с. Таварышы, сюды!

Дроб хавае брытву. З усіх куткоў двара збягаюцца салдаты, збіваюцца ў круг. На калодцы ў сярэдзіне круга стаіць Патап.

П а т а п. Таварышы! Мы толькі што даведаліся, што нас зараз прыдуць абяззбройваць. Палкавы суд, дзе большасць было афіцэраў і прыслужнікаў буржуазіі, пастанавіў расфармаваць нашу роту за тое, што мы праводзілі братанне.

К у ч а р а в ы. Таварышы, помніце, мы цвёрда пастанавілі не пакарацца ніякім іхнім судам. Запамятайце гэта!

Д р у ж н ы я г а л а с ы. Не здавацца! У штыкі ўзяць іх суд!

Дзяменя *(ускоквае на калодку)*. Таварышы, стаяць да канца цвёрда. Вінтовак з рук не выпускаць. Яны за вайну да пераможнага канца, а мы за сваю вайну. І калі мы дапусцім, каб нас абяззброілі, дык мы не салдаты. А калі дазволім арыштаваць каго з нас, дык мы не таварышы.

Голас. Ідуць!

Паказваецца Будан-Рыльскі, з ім група салдатаў і афіцэраў. Рота замаўкае. Будан-Рыльскі падыходзіць бліжэй, аддзяляецца на некалькі крокаў ад групы, падыходзіць да дзевятай роты.

Будан-Рыльскі. Ну-с, так званыя салдаты! Мы прышлі сюды па даручэнню палкавога камітэта. Палкавы камітэт разам з прадстаўніком ад часовага ўрада і армейскага камітэта разгледзеў, як гаворыцца, справу салдатаў дзевятай роты. Пастанавіў *(вымае паперку, чытае)*: «За здраду айчыне, што выразілася ў форме пагалоўнага братання з ворагамі, роту абяззброіць і расфарміраваць! *(Прыходзіць Марына, неспакойная, устрывожаная. Прыпыняецца збоку, слухае.)* Радавых Макара Макарука, Дзяменю Дзямяна, Патапа Думаку, як зачыншчыкаў і падбухторшчыкаў, арыштаваць і судзіць ваенным спецыяльна вызначаным судом.

Алесь. А рота даручыла мне заявіць, што пастановы чужога і варожага камітэта яна не прызнае і падпарадкоўвацца ёй не будзе. Гэта адно. Другое: Макар Макарук забіты ў баі 20 лістапада мінулага года.

Патап. Судзіць любіце, г. капітан! Судзілі, будучы земскім начальнікам, і цяпер судзіце. Але нябожчыка Макара Макарука дарма засудзілі: як яго цяпер арыштуеш? Пішы прапала.

Дзяменя. Нябожчыкаў судзяць! Вось якая іхняя праўда! Я таксама нябожчык, калі на тое пайшло!

Будан-Рыльскі. Мярзаўцы! Што за камедыянства?!

Галасы. Ад мярзаўца чуем! Вон, старарэжымшчык!

Будан-Рыльскі адступае на крок. Свішча ў свісток. Марына стаіць, сашчапіўшы рукі. Парываецца ісці, але стрымліваецца. Да яе падыходзіць Будан-Рыльскі.

Б у д а н-Р ы л ь с к і. Любіце батальныя сцэны? Ідзіце адгэтуль, сястрыца, вам тут не месца.

Чуецца густы барабанны бой. Паказваюцца салдаты ў поўнай баявой выкладцы. Уперадзе афіцэр. Адварочваецца назад, рукою дае знак спыніць барабаны. Падыходзіць да Будана-Рыльскага. Напружаная цішыня. Афіцэр бярэ пад казырок, рапартуе.

А ф і ц э р. Гаспадзін капітан. Батальён у складзе васьмісот штыкоў пры васьмі кулямётах прыбыў.

Б у д а н-Р ы л ь с к і. Вы паступаеце ў маё распараджэнне. Ваша задача — абяззброіць зараз-жа гэту банду, не спыняючыся ні перад якімі мерамі.

А ф і ц э р *(бярэ пад казырок)*. Слухаю, г. капітан. *(Да сваіх салдатаў.)* Заняць указаныя пазіцыі і чакаць майго загаду. Паставіць кулямёты на пярэднюю лінію. *(Да салдатаў дзевятай роты.)* Загадваю: зараз-жа здаць вінтоўкі і амуніцыю. *(Салдаты дзевятай роты маўчаць, не рухаюцца.)* Яшчэ раз і апошні раз паўтараю — здаць вінтоўкі і амуніцыю!

У радах роты хістанне. Некаторыя салдаты робяць рух для выпаўнення загаду. Два чалавекі выходзяць з радоў, каб здаць вінтоўкі: іх не пускаюць.

Г а л а с ы: Здраднік! Баязлівец! Ганьба!

З радоў салдатаў-усмірыцеляў выходзіць салдат.

С а л д а т-у с м і р ы ц е л ь. Ад імя салдацкага камітэта франтавікоў загадваю безадкладна выпаўняць загад! Цырымоніцца з вамі не будзем!

Хістанне ў радах роты павялічваецца. Яшчэ некалькі салдатаў выходзяць, аддаюць вінтоўкі.

А л е с ь *(вырываецца на сцэну, згортвае кулакі, трасе імі. Да салдатаў, здаўшых вінтоўкі.)* Сорам і ганьба вам! Вы не таварышы! *(Зварочваецца да ўсмірыцеляў.)* Таварышы! Ці-ж вы падымеце руку на вашых братоў? На свабоду, што заваявалі мы нашай кроўю?

Б у д а н-Р ы л ь с к і *(у абурэнні кідаецца з наганам на Алеся)*. Заткні глотку, нямецкі агент! Шпіён! Узяць яго!

Салдаты-ўсмірыцелі акружаюць Алеся.

Патап. Ці не сорам вам, таварышы! Вас прывялі, як паліцэйскіх, і па-паліцэйску вы выступаеце!

Будан-Рыльскі. Заткні глотку, нямецкі агент! Даволі бальшэвіцкіх мітынгаў!

Сярод салдатаў шум. Шум пракочваецца і па радах салдатаў-усмірыцеляў.

Голас з радоў усмірыцеляў. Даць яму сказаць!

Другі голас. Так нельга! Гэта не стары рэжым!

Будан-Рыльскі (*трасучыся ад злосці*). Не смець мітынгаваць! Забараняю!

Шум нарастае. Афіцэр збянтэжана азіраецца. Марына зрываецца з месца, выбягае на сцэну.

Марына. Браты-салдаты! Родныя, апамятайцеся! (*Шум заціхае. Выступленне Марыны і яе словы робяць уражанне сваёй нечаканасцю.*) Адумайцеся, што вы робіце? Вашымі рукамі расчышчаюць тут дарогу вашай-жа няволі, яны капаюць тут магілу вашай свабодзе і кідаюць вас брат на брата. Зразумейце-ж вы гэта!

Будан-Рыльскі. Шпіёнка! Правакатар! Бальшэвіцкая патаскуха!

Алесь (*вырываецца з групы канвойнікаў, падбягае да Марыны.*) Не смей абражаць жанчыну, сволач, царскі халуй!

Будан-Рыльскі, калоцячыся, як у ліхаманцы, падымае наган, страляе ў Алеся, але Марына паспела яго засланіць. Марына хапаецца рукой за бок, падае. Сярод салдатаў шум і рух.

Афіцэр (*падбягае да Будан-Рыльскага*). Што вы зрабілі, капітан?

Афіцэры хутка выходзяць.

Галасы салдатаў. Забіў жанчыну! Сястру забіў! Трымай забойцу!

Каля Марыны група салдатаў. Алесь расшпіляе на ёй тужурку. З кішэні курткі відаць беражок пакета. Бярэ руку Марыны, слухае пульс.

Алесь. Скончана жыццё! (*З болем.*) Даруй, Марынка. Маю кулю прыняла ты ў сэрца. Гвалтаўнікі! Забой-

цы! Каты! Перад людскім судом адкажаце вы за гэтыя дакументы чалавечай пакуты, слёз і крыві!

Убягае Дзяменя. Спыняецца перад трупам Марыны.

Дзяменя. Сястрыца, родная наша! *(Згортвае кулакі.)* Забойцы! Не схаваецеся! Адкажаце кроўю за кроў!

Патап *(паварочваецца ў той бок, куды ўцёк Будан-Рыльскі.)* Запішы гэта на сваім каінавым ілбе!

Кучаравы. Вось яна, агідная расправа! Вось яны, нашы класавыя ворагі! Змаганне толькі пачынаецца! Таварышы, арганізавана, дружна возьмемся за справу, за агульную справу...

*Заслона*

## АКТ ЧАЦВЁРТЫ

1918 год. Тая-ж вёска, што і ў 1-м акце. Поп ловіць вудачкамі рыбу, да яго падыходзіць Бухрай.

Бухрай *(хітра, з намёкамі)*. Вось, бацюшка, і ваду замуцілі, а рыбка штось не ловіцца.

Поп. Што замуцілі, то замуцілі. І чым далей, тым горай.

Бухрай. І як-та гэта каб ды без начальства? Ну, што такое народ без цвёрдай апекі? Ні села, ні пала, а ўжо ходзяць з сажонкамі ды зямлю абмяраюць. Сёння панскую, а заўтра — і маю і бацюшкаву.

Поп. Ох, і не кажы, Яўхімавіч. *(Закідае вуду. Бухрай паволі адыходзіць, сам сабе з дакорам ківаючы галавою. Пауза. Поп глядзіць на паплаўкі.)* Ох, госпадзі божа мой! І рыба не клюе. Дух большэвізма ўсю прыроду абуяў. *(Здалёку выходзіць чалавек, адзеты салдатам.)* Што-ж гэта за салдацюга? Ці не агітатар іхні, каб ён галавою налажыў! Ці гэта які рэквізітар, бандыт?

Чалавек, адзеты салдатам *(здалёку)*. Маё шанаванне, айцец Кандраці!

Поп *(нявetла, панура)*. Здрастуй! *(Падазрона аглядае салдата.)*

Чалавек, адзеты салдатам *(падыходзіць, спыняецца)*. Не пазналі, да, собственна, да?

Поп *(у радасці)*. Арцём Іванавіч!.. Даруйце, не пазнаў адразу. Думаў — рэквізітар большэвіцкі. Ха-ха-ха... Каб не ваша прымаўка, дык і не пазнаў-бы, ісцінны бог!

З-за вугла паказваецца Караліна. Згледзеўшы папа і Шышлу, падаецца назад, сама сабе робіць знакі перасцярогі. Спыняецца, прыслухоўваецца да гутаркі, мімікаю рэагуе на яе.

Шышла. Я-ж і хачу, каб мяне не пазнавалі. Інкогніто хаджу, да, собственна, да.

Поп. Так, так, я вас разумею, г. Шышла... Навіны якія ёсць?

Шышла. Вы хутка пачуеце і ўбачыце іх сваімі вачамі, айцец Кандраці. А Шышла справу робіць, да, собственна, да! *(Змяняе тон.)* Скажыце, айцец Кандраці, хто завадыякамі быў у разграбленні маёнтка г. Будана-Рыльскага... і наогул. Маю даручэнне экстрана сабраць весткі.

Поп *(баязліва азіраючыся)*. Я іх усіх ведаю. Зойдзем да мяне, Арцём Іванавіч.

Поп прапускае наперад Шышлу, азіраецца. Выходзяць. Караліна нясмела выцягвае галаву, глядзіць ім услед, потым ступае крокі два, запыняецца. Стаіць, ківае сама сабе галавою. Грозіць пальцам у той бок, куды пайшлі поп з Шышлам. Мімікаю, рухамі выказвае свой страх і нейкія свае мыслі.

Караліна. Шышла... Шышла... Паліцэйскі цар. Салдатам ходзіць. Салдатам, мае красачкі. А які страшны! Салдатам ходзіць! З белага ў шэранькага перакінуўся. *(Раптам змаўкае, прыкладае палец да носа.)* Але нашто вусы абстрыг, красачкі мае вы? Няўжо для таго, каб харашэйшым быць. Вось фацэція... Пайду, пайду-ж я ад вас далей...

Уваходзяць дзед Мікіта і Аслаў з сажонкам.

Дзед Мікіта *(прадаўжаючы гутарку)*. Паны сабе так думаюць: «А, не да ўпадобы вам былі паны і буржуі, папраганялі нас, дык вось паспрабуйце без нас жыць». Гэта значыць, чуй, дурань-браце, каб мы ім зноў рукі цалавалі.

Аслаў. А няхай ім лепей сырая зямля вочы зацалуе.

Дзед Мікіта. Людзі-ж, чуй, дурань-браце, ка-

жуць, што яны заграніцу сюды заклікаць ладзяцца, каб скінуць большэвікоў, свабоду і зямлю адабраць.

Аслаў. Але ад зямлі мужыка, покі мужык жыве, ніхто не адарве.

Дзед Мікіта. Ну, гэта чуй, дурань-браце, гледзячы, як хто рване.

Насустрач выходзіць Бухрай. Пазірае на дзеда Мікіту і Аслава. Спыняецца, з дакорам ківае галавою.

Бухрай. Ой, старыя, нядобра вы робіце: не любіць зямля, калі па ёй ходзяць без належнай пашаны.

Аслаў (*сярдзіта*). А ты вось скажы: ці любіць чалавек, калі з яго цягнуць жылы і смокчуць кроў павукі і кляшчы?

Бухрай. Хто гэта — павукі і кляшчы?

Аслаў. А тыя, што абдзіраюць народ, на яго бядоце свае кішкі гадуюць ды салам абрастаюць.

Дзед Мікіта (*абурліва*). Пытае, хто павукі, чуй, дурань-браце. (*Да Бухрая.*) А ты не клешч, не павук?

Бухрай (*таксама ў абурэнні*). Я, я — павук, клешч? Я, што раскідаюся хлебам, каб дапамагчы галоднаму?

Дзед Мікіта. А колькі ты, воўчы трыбух, чуй, дурань-браце, скур за гэты хлеб злупіў? Колькі жывёлы, зямлі сабе за вайну прыдбаў?.. Дабрадзей! Няхай такіх дабрадзеяў і зямля не носіць.

Бухрай. Ты глядзі, гарлапан стары, каб гэты саджонак не пахадзіў яшчэ па тваёй спіне... Распасцёр пастку. Тфу ты, чорт паганы, каб ты праваліўся. (*У злосці выходзіць.*)

Дзед Мікіта (*услед Бухраю, згортвае фігу*). Вось табе фігурацыю за тваю турбацыю. Сам правалішся, чуй, дурань-браце.

Аслаў. Бачыш, як не залюбіў: праўда вочы коле.

Непадалёку чуецца песня Караліны·

Сядзіць зайчык на мяжы,
Што ён думае, скажы?
Зайка з поля ў лес бяжыць,
Добра зайку ў лесе жыць.

Дзед Мікіта. Ты вось заўваж, Аслаў: ужо колькі разоў прымячаю я, што як толькі пакажацца яна, дык

зараз-жа нейкае ліха следам за ёю. Праціўная, чуй, дурань-браце, кабета.

Караліна. Жывы яшчэ, мужчынкі? Жываце старыя алешыны. А чулі вы, што паліцэйскі цар шэранькім зрабіўся і вусы абстрыг? Вось фацэція. Ха-ха-ха! *(Заліваецца доўгім дурным смехам.)*

Дзед Мікіта. Тфу.

Аслаў. А ты, Караліна, хвацка смяешся.

Караліна *(не слухае)*. Ды чаго смяюся. Тут, можа, плакаць трэба, а я смяюся.

Дзед Мікіта. Ідзі ты, чуй, дурань-браце, куды ідзеш!

Караліна. Ой, які ганарысты!.. Ты глядзі — кажан лётае!

Накідваецца са смехам на Мікіту. Выходзіць.

Дзед Мікіта *(плюе)*. Тфу! Чаўпе нямаведама што, аж слухаць моташна... І жывуць-жа такія людзі на свеце!

Бяжыць Гараська.

Гараська *(перапалоханы)*. Дзядок! Нейкія салдаты прышлі з афіцэрам! Двары трасуць!

Дзед Мікіта *(устрывожаны)*. Якія салдаты? Адкуль?

Аслаў *(палохаючыся)*. З афіцэрам? Ну, то дабра не будзе!.. А можа, гэта немцы? *(Азіраецца і бездапаможна топчацца.)*

За сцэнаю шум. Чуваць тупат конскіх капытоў, брэх і выццё патрывожаных сабак, галасы перапалоханых людзей і крыкі. Чотка даносіцца чыйсьці начальніцкі голас: «Зносіць рэчы на плошчу! Туды-ж вядзі і падбухторшчыкаў!»

Дзед Мікіта. Што-ж гэта ёсць такога?

Гараська. Уцякайма, дзядок, хаваймася!

Аслаў. Вось не было яшчэ ліха!

Дзед Мікіта, Аслаў і Гараська кідаюцца з плошчы. Нечакана ім дарогу перагароджвае салдат са стрэльбай.

Салдат *(грозна)*. Стой на месцы!

Дзед Мікіта, Аслаў і Гараська нямеюць, застываюць на месцы. Уваходзіць Будан-Рыльскі, суровы і грозны. За ім пад канвоем

ідуць сяляне, нясуць крэслы, люстэрка, канапку, столікі, дываны і розныя рэчы панскага ўжытку. Трое салдатаў Будан-Рыльскага вядуць Міхася, Дроба і Гузыра. Ззаду, на некаторай адлегласці, за імі ідуць жанкі і Наста. Жанкі лемантуюць, галосяць.

Галасы. За што вы іх пабралі? Куды ведзяце? Разбойнікі! З немцамі ваяваць не ўмелі, а з жанчынамі ды з безаружнымі дык вы хваты!

Наста. Міхаська, родны, за што цябе, што гэта робіцца?

Будан-Рыльскі. Маўчаць, хам'ё!

Гараська, убачыўшы бацьку пад канвоем, кідаецца да яго.

Гараська. Тата! Татачка!

Будан-Рыльскі (*б'е Гараську нагайкай*). Назад, шчанюк!

Гараська з крыкам «а-яй-яй» кідаецца наўцёкі.

Міхась (*не помнячы сябе*). Не смей біць хлапчука!

Будан-Рыльскі. Хам расцугляны! Шпана бальшэвіцкая! З кім гаворыш? Рукі па швах!

Дзед Мікіта. Ды што вы робіце? За што здзекуецеся, катуеце нас?

Будан-Рыльскі (*да дзеда Мікіты*). Маўчаць, пудзіла старое! (*Афіцэру.*) Узяць гэтых дамарослых мудрацоў і ўсыпаць па пятнаццаць шомпалаў кожнаму!

Афіцэр і двое белых салдатаў хапаюць Мікіту.

Дзед Мікіта (*адбіваецца*). Смярдзюхі вы, чуй, дурань-браце, куды лезеце?

Бабка Таццяна. А паночак! А даражэнькі! Злітуйцеся! Куды-ж іх вядуць? Даруйце ім!

Будан-Рыльскі. А дзе-ж падбухторшчыкі?

Шышла. Вось яны. (*Паказвае на Міхася, Гузыра і Дроба.*)

Будан-Рыльскі. А, быццам-бы знаёмыя. Слаўныя воіны славутай дзевятай роты?.. Братальнічкі! Ух вы, морды! Я вамі зараз займуся!

Бабка Таццяна. А паночак, а даражэнькі!

Жанчыны пачынаюць галасіць. Іх акружае канвой.

Будан-Рыльскі. Паслухалі бальшэвіцкіх агіта-

тараў-горладзёраў, лодараў: забірай панскае дабро, знішчай паноў. Вы думаеце, што мне шкада гэтага барахла? Ды я плюю на яго *(б'е шабляй па мэблі і ломіць яе)*. Я выб'ю гэтак-жа большэвіцкі дух з вашых галоў.

У гэты час на званіцу шыбуе Гараська. Залазіць і звоніць. Заглушаючы шум, далятае глухі, надтрэснуты пажарны звон. Гукі яго нагадваюць словы: «Гвалт! Гвалт! Гвалт!» Будан-Рыльскі і яго салдаты палохаюцца. Сярод іх замінка.

Будан-Рыльскі *(у грозным тоне, хаваючы страх)*. Хто распарадзіўся падымаць трывогу?

Голас. Падпалілі нас! *(Агульны рух.)* Пажар! Ратуйце!

Праз плошчу, на ўсю сілу, бяжыць салдат са стрэльбаю.

Салдат *(здалёк крычыць)*. Гаспадзін капітан, ратуйцеся! Чырвоная гвардыя акружае нас! *(Кідае вінтоўку, на бягу скідае шынель, уцякае.)*

Будан-Рыльскі *(пакідае ролю суддзі, адбягаецца на плошчу, падае каманду)*. Салдаты, ка мне! На коні!

Дзесь за сялом зататакаў кулямёт. Сярод салдатаў паніка. Канвойнікі кідаюць арыштаваных. Міхась накідваецца на канвойніка, валіць на зямлю, вырывае вінтоўку. Агульная сумятня. Народ разбягаецца. Поп і Бухрай, якія назіралі экзекуцыю, хаваюцца. З розных бакоў плошчы паказваюцца байцы, адзетыя як папала, у шынялях, у скураных куртках, з гранатамі за поясам і з кулямётнымі пасамі праз плячо. Дзед Мікіта падымаецца з зямлі, недаўменна аглядаецца. Будан-Рыльскі, пакінуты сваімі салдатамі, пускаецца наўцёкі. За ім бяжыць Шышла, потым заварочвае ў другі бок.

Голас *(за сцэнаю)*. Стой, рукі ўгару!

Чуваць стрэл з нагана. Валтузня, тупат людскіх ног.

Голас. Марная твая справа, капітан!

Уваходзіць з ваяўнічым выглядам Патап, за ім бледны, без шапкі і без зброі Будан-Рыльскі пад канвоем двух матросаў. На сцэне застаюцца Наста, бабка Тацяна, дзед Мікіта, Міхась, Аслаў, Дроб, Гузыр. Збоку цісняцца натоўп мужчын і жанчын.

Патап *(спыняецца, паказвае рукою на канапку)*. Прашу садзіцца, капітан! Здарова, брацішкі, дзядзькі і цёткі!

Голас. Ды гэта-ж Патап Думака!

Міхась, Гузыр, Дроб *(разам)*. Патап! Родны! Браток! *(Акружаюць яго, радасна паціскаюць яму рукі.)*

Дзед Мікіта *(у радасным парыве)*. Збавіцелі нашы! *(Абнімае Патапа, выцірае вочы.)*

Бабка Тацяна. Што-ж гэта творыцца на свеце?!

Наста. Божа-ж мой, што яны хацелі зрабіць з намі!

Аслаў. За што? Я пытаюся... Эх, Патапе, помню, пытаўся ты: навошта поп і паліцэйскі стражнік?.. А навошта *(паказвае на Будан-Рыльскага)* азіят гэты?

Голас. Гэта ўсё адна хэўра.

Другі голас. Камень яму на шыю ды ў букту!

Будан-Рыльскі. За маё ўніжэнне адкажаце перад законнаю ўладаю!

Дзед Мікіта. Ці бачылі, якая цаца! Маўчы, чуй, дурань-браце, бо вось зараз плясну табе ў морду!

Патап. Разбяромся, таварышы, па справядлівасці разбяромся.

Уваходзяць Алесь і Дзяменя. За імі чырвонагвардзейцы вядуць арыштаваных, сярод іх Шышла. Яго не заўважаюць. Ён загубіўся ў групе арыштаваных.

Алесь *(зварочваецца да народу)*. Здарова, таварышы!

Збіраецца натоўп народу.

Галасы. Аляксандр Пятровіч! Настаўнік!

Гузыр. Прафесар!

Дроб. Наш настаўнік!

Дзед Мікіта. Кватарант мой! Родны ты мой, чуй, дурань-браце!

Алесь *(падыходзіць да Будан-Рыльскага. Цяжкая пауза)*. А запытайцеся, таварышы, гэтага бандыта, дзе наша настаўніца Марына Мікалаеўна?

Дзяменя. Адзін яе забойца злоўлен. Вось ён. Папаўся, каторы кусаўся! А дзе Шышла, што быў тут ураднікам?

Аслаў. Ён, сынку, яшчэ да рэвалюцыі знюхаў, чым

вецер павявае, і сышоў адгэтуль, як прусак перад пажарам.

Шышла стаіць ні жывы ні мёртвы. Прыбягае Гараська, узрушаны і радасны.

Гараська (*горда*). А гэта я злётаў на званіцу ды ў пажарны звон лупянуў. Каб людзі збіраліся і ратавалі нас! Вось яны і прыйшлі! (*Смяецца радасным смехам.*)

Галасы. Маладзец, Гараська! Растаропны хлапец!

Матрос (*сурова*). Што-ж мы, таварышы, тут будзем у пачэснай варце стаяць? Пара з імі канец рабіць.

Голас. Судзіць іх.

Гузыр. Які тут суд? Я яго, сукінага сына, яшчэ на пазіцыях на штык хацеў пасадзіць, ды вы, таварышы, утрымалі мяне... А шкада!

Дзед Мікіта. Бацюшка нам казаў: «Якою мерою вы мерыце, такою адмераюць і вам». Вось трэба ім адмераць так, як збіраліся яны, чуй, дурань-браце, адмераць нам.

Голас. Правільна!

Патап. Мы, таварышы, — салдаты рэволюцыі, а суд — не наша чыннасць. Ёсць асобныя органы пролетарскай дыктатуры. Яны і будуць судзіць іх. Дык так, грамадзянін Будан-Рыльскі! Вы абяцалі пагаварыць з намі. Гаварылі мы на фронце, ды ўсяго не дагаварылі!.. Суда над вамі рабіць тут не будзем: у чэка аб вас сабраны матэрыял багаты.

Будан-Рыльскі. Прашу натацый мне не чытаць і не абражаць мяне!

Алесь (*з нянавісцю пазірае на яго*). Хіба можна абразіць забойцу і бандыта?

Патап (*да матросаў*). Вывядзіце яго адгэтуль, таварышы, каб не мазоліў нам вачэй, ды пільнуйце крэпка!

Голас. Тут-бы прыкончыць яго!

Уваходзіць Караліна, абапіраецца на доўгі кій, запыняецца, углядаецца ў людзей.

Караліна. Колькі народу, людцы мае мілыя! Знаёмыя і незнаёмыя! (*Узіраецца ў Шышлу, заліваецца смехам.*) Ха-ха-ха! Паглядзеце-ж, які ён смешны!

Дзяменя. Хто, цётка, смешны?

Караліна. Ну, хто-ж? Ён — цар паліцэйскі. Быў белы, а зрабіўся шэранькі. І вусы абстрыг. Думае, што так харашэй... Фацэція ды годзе!

Дзяменя. Пакажы, пакажы нам, цётка, цара паліцэйскага!

Караліна. Баюся, міленькі! Ён-жа нагайкай біў мяне і шабляю хацеў засеч... Унь ён! *(Паказвае на Шышлу.)*

Шышла *(змяніўся з твару)*. Што ты клеплеш на мяне! Які я табе цар паліцэйскі, да, собственна, да?

Дзед Мікіта. Задакаў, чуй, дурань-браце! Ды, гэта ён, Шышла дакала!

Міхась. А, дык вось яно што!.. А я глядзеў, адкуль ён мяне ведае.

Шышла. Вось сітуацыя!

Галасы. Фараон! Ад'ютант Будана! Спіскі падаваў яму!

Дзяменя *(да Шышлы)*. А ну, дзядзька, пакажыся. Ён, ён! От прычапі яму толькі вусы, дык і цэлы Шышла.

Шышла. Гаспада таварышы! Я не Шышла, далі-бог, не Шышла! То быў другі Шышла. Я — Кандрашкевіч! Так і ў пасведчанні значыцца, да...

Дзяменя. Дагаварвай ужо — «собственна, да!»

Шышла дастае дакумент. Разам з дакументам няўмысля вымае паперку, хапаецца, хоча схаваць яе.

Дзяменя. Давай, давай! Усё паказвай. *(Забірае паперы, аддае Алесю.)*

Алесь *(разгортвае, чытае)*. Спісак ліц сяла Загаруйкі, каторыя замешаны ў разграбленні маёнтка г. Будан-Рыльскага. Ты пісаў спіс?

Шышла *(бянтэжыцца)*. Не... не я! Гэта поп! Гэта не я пісаў.

Алесь *(вымае з кішэні пакет, дастае лісток спісанай паперы, падносіць яго да Шышлавага носа)*. Пазнаеш гэты дакумент — «Яго высокаблагароддзю г. прыставу III стана». Што-ж маўчыш? *(Зварочваецца да народу)*. Таварышы! Адна рука, рука даносчыка, шпіёна, закара-

нелага ворага, пісала і спіс гэты і гэты данос на мяне і на настаўніцу Марыну Мікалаеўну.

Ш ы ш л а *(падае на калені)*. Даруйце мне, таварышы!

Г а л а с ы *(абурана)*. Да сценкі яго! Застрэліць даносчыка.

Шышлу вядуць пад канвоем.

А л е с ь. Вось дакументы чалавечай пакуты, крыві і слёз! І гэта ўсё засталося мне на памяць аб самым блізкім для мяне чалавеку!.. Вось часцінка жудаснай аповесці пра барацьбу супроць нашай праўды. *(Пауза.)* Таварышы! Людзі, што жылі гэтай праўдай, часта гінулі за яе, але сама ідэя праўды жыве. Вайна за нашу волю, за наша шчасце не скончана, яна толькі пачынаецца.

П а т а п. Таварышы! Мы спыніліся тут ненадоўга. Вы бачылі гэту банду? Нам вядома, што на поўдзень прабіраецца цэлы эшалон такіх-жа белых бандытаў. Мы павінны перасеч ім дарогу і абясшкодзіць іх, а вы, таварышы, памажыце нам. Для нас дораг кожны баец, кожны фунт хлеба... Які будзе ваш адказ, таварышы!

Б а б к а Т а ц я н а. Ох, галубкі мае, ізноў вайна! Дык калі-ж ёй канец?

Г о л а с. Ізноў мабілізацыя!.. Ох ты, гора наша!

М і х а с ь. Мабілізацыя? Ды яна наша, свая мабілізацыя!.. Ужо стаялі пад расстрэлам, ізноў паставяць, калі будзем сядзець ды на каго спадзявацца... Запішы мяне ў Чырвоную гвардыю!

Г у з ы р. І мяне пішы!

Д р о б. А я што? Цяля ў бога ўкраў? Пішы, брат, і я з вамі!

Д з я м е н я *(падбягае да запісаных)*. Браткі мае, арлы баявыя! Разам будзем крышыць белую костку! Завінёмся, дык знай нашых!

Г а л а с ы з н а т о ў п у. Запісвай!.. І мяне пішы!

Настрой падымаецца.

Г а л а с ы. Самі за сябе ваяваць будзем! Смерць буржуям!

Г а р а с ь к а *(падыходзіць да Алеся)*. І я хачу на вайну. Запішыце і мяне!

Дзед Мікіта. А з кім-жа я застануся? Ты-ж у нас цяпер адзін гаспадар дома, чуй, дурань-браце!

На вуліцы чуваць гармонік. Ідзе Дроб, сабраны ў дарогу, з шынялём і з салдацкаю сумкаю. Цераз плячо надзета салдацкая труба. Дроб іграе на гармоніку вясёлы матыў.

Патап *(скідае шапку)*. Таварышы, у паход! Камандзіры на месцы! Пратрубі, Паўлюк, збор!

Дроб трубіць збор.

Дзед Мікіта. Эх, Аслаў, Аслаў, няма, адышла наша маладосць. Эх, старасць, а то і мы-б пайшлі здабываць долю і вольнае жыццё.

Чырвонагвардзейцы збіраюцца, строяцца ў калону. Калона рухаецца, ідзе. Алесь, Дзяменя, Патап знімаюць шапкі, махаюць імі на развітанне.

Галасы. Шчаслíва заставацца! Шчаслівай дарогі!
Голас. Няхай жыве Чырвоная гвардыя!

Запявала

Рушым дружна грамадою
На паноў у свой паход,
Скончым з панскаю ардою
І адвечны знішчым гнёт!

Прыпеў

Эй, гарніст, іграй паход!
Дружна, армія, ўпярод!

Жанчыны збягаюцца з сваіх хат, нясуць на дарогу салдатам ежу, бялізну ў клунках, а хто і так.

Аслаў *(на паузе песні)*. Праўда твая, Мікіта: чаму нам не па дваццаць гадоў?

Запявала

Разгарні ты, люд рабочы,
Сілу, волю на ўсю шыр,
Зграі рознай патарочы
Палажы навек у жвір!

Усе заспявалі і пайшлі

Прыпеў

Эй, гарніст, іграй паход!
Смела, ратнікі, ўпярод!

З а п я в а л а

Узнімайся, сцяг чырвоны,
Ды ўгары агнём шугай
І над светам паланёным
Ясным сонцам заіграй!

П р ы п е ў

Эй, гарніст, іграй паход,
Дружна, армія, ўпярод!

З а п я в а л а

Развязаў нам Ленін вочы,
Расказаў, дзе шчасце, мір.
Разгарніся-ж, люд рабочы,
На ўсю моц сваю і шыр!

П р ы п е ў

Эй, гарніст, іграй паход!
Грамада, ідзі ўпярод!..

*З а с л о н а*

ЗМЕСТ

